

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 8 верасня 1989 г. № 36 (3498) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## У НУМАРЫ:



# Як доўг, як дар...

**Коласаўскае свята паэзіі**

Чароўныя гукі цымбалаў лунаюць над паркам культуры і адпачынку імя Максіма Горкага ў Мінску... Узмоцненыя дынамікамі, яны разносяцца па ўсім парку, запрашаючы сюды, да летняй эстрады, дзе на імправізаванай сцэне, у самым версе вялікімі літарамі напісаны словы: «Песняй вітаю я вас».

Прыціхлі гукі цымбалаў, і адразу ж паплылі такія дарагія, знаёмыя радкі, якія стаяць своеасаблівым уступам да паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка»:

**Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,**
**Ад казак вечароў,**
**Ад песень дудароў,**
**Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей,**
**Ад шолаху начэй,**
**Ад тысячы ніцей,**
**З якіх аснована і вытканa жыццё**
**І злучана быццё і небыццё,—**
**Збіраўся скарб, струменіўся няспынна...**

Гэты скарб, «як доўг, як дар», даваў роднаму народу яго пясняр. Невыпадкова менавіта гэтымі словамі і пачалося традыцыйнае гарадское коласаўскае свята паэзіі, сёлета прысвечанае 117-ай гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа. Гэтаксама зусім невыпадкова прысутныя сабраліся менавіта на гэтым месцы, у самым цэнтры парку. Да вайны непадалёку адсюль знаходзіўся паэтаў дом. Жывучы ў ім, пясняр не адмаўляўся ад сваіх сялянскіх звычак, любіў зямлю. З задавальненнем ён працаваў на ўласным агародзе. Вельмі любіў адпачываць у засені дрэў. Як адзін, так і са сваімі шматлікімі сябрамі, у тым ліку і тымі, якія прыязджалі з розных саюзных рэспублік, з Масквы, Ленінграда.

Пра гэта нагадаў, адкрываючы свята, яго вядучы — сакратар праўлення СП БССР В. Зуёнак. Перадваенныя гады жыцця Якуба Коласа падрабязна прыгадаў яго сын, заслужаны дзеяч культуры Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч. Ён выказаў і слушную прапанову: добра было б на месцы коласаўскага дома ўстанавіць напачатку мемарыяльны знак, а ў перспектыве — аднавіць гэты будынак, арганізаваць у ім невялікую экспазіцыю, якая б стала філіялам Літаратурнага музея Якуба Коласа.

Ухваліўшы гэтую прапанову, народны мастак СССР Заір Азгур, таксама прыгадаў асобныя свае сустрэчы з Якубам Коласам, гаварыў аб яго чалавечнасці, вялікай сіле таленту, дзякуючы якому і нарадзіліся творы, якія стаяць нароўні з лепшымі ўзорамі сусветнай літаратуры.

Усе дэфіцыты і беды, якія спадарожнічаюць сёння нам, пачаў сваё выступленне С. Грахоўскі, ад таго, што ў нас дэфіцыт сумленнасці, шчырасці, душы, дабрыні, міласэрнасці. Прыкладам таго, як трэба жыць і працаваць, і з'яўляецца Якуб Колас. Сваё жыццё ён пражыў надзіва сумленна.

Жыве коласаўская паэзія... Падабаюцца вершы песняра і дзецям. Адзін з вершаў прачытала на свяце Маша Грахоўская — унучка С. Грахоўскага, за што атрымала кветкі і дружныя апладысменты.

Падзяліліся сваімі думкамі аб творчасці Коласа і прачыталі вершы М. Аўрамчык, М. Татур, А. Вярцінскі, А. Канапелька, Р. Тармола. Бадай, агульную думку выказаў сваім вершам Р. Тармола: «Колькі вы радасці людзям прынеслі: колас жытнёвы і Колас-паэт».

У час коласаўскага свята была праведзена віктарына, выступалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, у тым ліку і госці з Мікалаеўшчыны.

**Наш кар.**



В. ЗУЁНАК і Д. К. МІЦКЕВІЧ даюць аўтографы.

Фота Ул. КРУКА.

## «ЛіМ» — на чарнобыльскі рахунак

**Паважаныя таварышы!**

**Калектыў рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва» прыняў рашэнне аб тым, што ганарар аднаго з бліжэйшых нумароў будзе пералічаны ў фонд перасялення з радыяцыйна забруджаных раёнаў Гомельшчыны і Магілёўшчыны — на рахунак 700073 Мінск ОПЕРУ Белжылсацбанка СССР МФО 40019.**

**Просім нашых аўтараў, у прыватнасці тых, чые матэрыялы знаходзяцца ў рэдакцыі, паведаміць пра сваю згоду прыняць удзел у гэтым нумары.**

*Перабудова і міжнацыянальныя адносіны*

**Васіль БЫКАЎ,**
народны дэпутат СССР

# ПОГЛЯД ЗБОКУ

Эстонія, як і ўся Прыбалтыка, перажывае цяжкі час, і яе цяжкасці, на маю думку, у значнай ступені бяруць свой пачатак у нашым не такім аддаленым мінулым, якое прадаўжае існаваць і ў перабудовачны час. Гэта толькі здаецца так, што балючыя нацыянальныя праблемы выплеснуліся з вядомымі актамі аб мове — мова тут толькі нагода, але далёка не прычына. Тым больш не самая галоўная з прычын.

Прычына, як мне бачыцца, заключана ў крыху іншай, не менш, а можа, і больш важнай праблеме.

Здавалася б, што заганнае можна ўбачыць у тым, што заклапочаныя пагрозай размывання нацыянальнай культуры, працэсам звужэння сферы ўжывання нацыянальнай мовы, заканадаўчыя органы рэспублікі прадпрынялі пэўныя меры, якія адпавядаюць інтарэсам большасці? Як да гэтага павінны паставіцца нацыянальныя меншасці, што жывуць у рэспубліцы? Няцяжка было б прадугледзець развіццё падобнай сітуацыі ў любой з дэмакратычных дзяржаў, дзе даўно і без колькі-небудзь прыкметных канфліктаў суіснуюць разнастайная меншасць і карэннае насельніцтва. У ЗША, Англіі, Францыі з іх даволі складаным этнічным складам тым не менш амаль не ўзнікае моўных праблем, паколькі некарэнныя групы насельніцтва альбо неадчувальна інтэгруюцца ў карэнную культуру, альбо захоўваюць аўтаномію, рэгламентаваную заканадаўствам краіны. У нас жа адбываецца штосьці нечуванае: нацыянальныя меншасці ў рэспубліках, праяўляючы вядомую індыферэнтнасць да асноўнай нацыянальнай культуры, у пэўныя моманты робяць даволі адчувальныя спробы дэструктыўным чынам уплываць на яе стан. І калі іх пазіцыя, якая датычыць уласнай мовы і культуры, увогуле зразумелая і правамерная, то матывы іх нецярпімасці ў адносінах да карэннай культуры рэспублікі цяжка спасцігальныя. Робіцца зусім незразумелым іх непрыманне наймалой спробы карэннай нацыянальнасці ўмацаваць свой моўны стан даступнымі сродкамі і тым аберагчы цэласнасць нацыянальнай культуры. Чым жа выклікана такое непрыняцце хоць і чужых, але такіх элементарных і зразумелых нацыянальных мер і мерапрыемстваў?

Хіба тым, што гэтыя досыць законныя меры асноўнай нацыі закранаюць інтарэсы і амбіцыі меншасці? Замахваюцца на яго шматгадовае існаванне ў хоць і не варожым, але якое, відаць, так і не стала блізкім этнічным асяроддзі? Нараджаюць дадатковыя клопаты ў выглядзе неабходнасці вывучэння незнаёмай мовы? Парушаюць звыклую за дзесяцігоддзі, такую ўтульную моўную інертнасць? Калі так, то як жа тады можна назваць усё гэта на агульнадаступнай, пазбаўленай хітрамудрага філасофствавання мове?

(Працяг на стар. 2.)

# ПОГЛЯД ЗБОКУ

(Пачатак на стар. 1).

У рэшце рэшт можна ж і не вывучаць, жыць, як жывецца, не заўважаючы і не чуючы людзей, з зямлёй якіх звязаны ўласны лёс, будучыня дзяцей. Здаецца, апошнія заканадаўчыя акты ў той жа Эстоніі зусім дапускаюць такую магчымасць. Але ў такім выпадку ці не будзе амаральнай прэтэнзія на права кіраваць гэтымі людзьмі, упраўляць іх вытворчай дзейнасцю, навязваць ім уласныя густы і веравання? Ці не разумней пастарацца, калі не прыняць, то хоць бы зразумець іх нацыянальныя клопаты, што вынікаюць з іх нацыянальных асаблівасцей? Нават каланізатары мінулага (з тых, хто разумнейшы) для паспяховага кіравання падданымі вывучалі іх мову, асновы іх нацыянальнай культуры. Але ж з таго часу многае змянілася, і часы імперскай ідэалогіі мінаюць на ўсёй зямлі. Іншыя настаюць часы! Законы народаўладдзя ўстанаўліваюцца на ўсіх кантынентах, ва ўсіх дэмакратычных, суверэнных дзяржавах, якімі намінальна з'яўляюцца і нашы прыбалтыйскія рэспублікі.

Але ўся справа ў тым — ці з'яўляюцца? Ці могуць іх заканадаўчыя органы паўнапраўна рэалізаваць палітычную волю тых, каго яны прадстаўляюць?

Устанаўленне цэнзу аседласці сваёй палохаючай навізной, падобна, шакіравала многіх. Варта, аднак, паразважаць, ці настолькі гэты цэнз непрымальны, як можа падацца тым, хто, вучачыся дэмакратыі, яшчэ знаходзіцца ў яе падрыхтоўчым класе. Бо на больш нізкім, так сказаць, элементарным узроўні гэтае «парадаксальнае» патрабаванне такім зусім не з'яўляецца. Мы ж не здзіўляемся, калі, скажам, для выбараў калгаснага старшыні абавязковай умовай прызнаём факт яго пражывання на тэрыторыі дадзенага калгаса. І лічым правільным удзел у выбарах яго толькі членаў калгаса, а зусім не жыхароў усіх навакольных гаспадарак. Адно з самых ганебных параджэнняў адміністрацыйна-загаднай сістэмы — пачварная, нідзе ў свеце, як у нас, так не распаўсюджаная лёгкасць, з якой перамяшчаюцца розныя групы насельніцтва, сістэматычнае перастаўленне кіруючых кадраў. У біяграфіі любога партыйнага ці савецкага работніка, які хоць колькі-небудзь «пакіраваў», — дзесяткі пасад, месц працы, якія часта нічога агульнага з папярэднімі не маюць. Вядома, усё гэта не лепшым чынам адбіваецца на справе, якую ён з такой лёгкасцю пакідае, як і распачынае новую. Тое ж можна сказаць і аб радавых работніках, чые працоўныя кніжкі стракацяць дзесяткамі запісаў, як і пашпарты — штампамі прапісак-выпісак. Варта толькі бегла пазнаёміцца са складам Вярхоўнага Савета любой з рэспублік, каб пераканацца, колькі ў ім прадстаўнікоў вярхоў, цэнтральных ведамстваў, маскоўскага генералітэту, якія звычайна з'яўляюцца ў рэспубліку два разы на год, каб адзначыцца, прагаласаваць за загадзя падрыхтаваныя рашэнні і паехаць. Гэтае дэпутацтва ім належыць па іх наменклатурнай пасадзе, і за сваё кіраўнічае жыццё яны паспяваюць змяніць дзесяткі краёў і абласцей, не маючы ні жадання, ні магчымасці спасцігнуць, ужыцца ў іх сапраўдныя клопаты. Ды і навошта ўжывацца, калі на наступны тэрмін яны будуць засядаць ужо за тысячы кіламетраў адсюль. Але ж каб па-сапраўднаму «хварэць» за справу, трэба яе ведаць, трэба ў ёй варыцца. «Трэба жыць аседла», — мудра і дакладна заўважыў неяк сапраўдны рускі інтэлігент акадэмік Д. С. Ліхачоў.

Вось чаму цэнз аседласці пры ўсёй яго ўяўнай незвычайнасці безумоўна служыць інтарэсам народа, з'яўляецца важным сродкам ажыццяўлення народаўладдзя, дэмакратызацыі грамадскага жыцця. І прынцыпе яго — несумненна разумнае дэмакратычнае ўстанаўленне, дастойнае распаўсюджання ў выбарчай сістэме краіны. Напэўна, гэта асабліва датычыць выбараў у мясцовыя органы ўлады. Дык чаму ж гэты цэнз выклікае непрыманне пэўнай часткі грамадзян, якія бачаць у ім дыскрымінацыю асабістых правоў і магчымасцей?

А можа, справа тут зусім не ў тых уяўных правах, якіх яны быццам пазбаўляюцца, а хутчэй у тых, якія набываюць іншыя? Нездарма ж гаворыць прымаўка, што не тады мужык радуецца, калі купляе кабылу, — больш радуецца, калі кабыла ў суседа здохне.

Можа так стацца, што ў гэтым уся справа.

Сталінска-брэжнеўскае мінулае выпрацавала ў нас устойлівы сіндром непрымання ўсяго не толькі і не столькі сапраўды бязглуздага і варожага, але таксама і заснаванага на здаровым сэнсе, нязвыклага і новага. Мы баімся, як бы людзей з гэтым новым і незвычайным не спасцігла ўдача, якая даўно не спасцігала нас, каб яны не зажылі лепш за нас. Асабліва калі гэтыя людзі не зусім такія, як мы, хоць нечым адрозніваюцца ад нас — мовай, побытам ці ўкладам. Ці нават больш дасканалым і дэмакратычным Законам аб выбарах.

## З ПОШТЫ ГЭТАГА ТЫДНЯ

# Гіне нацыянальны скарб!

Мы, чытачы і супрацоўнікі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, сур'ёзна занепакоены тым становішчам, у якім апынулася галоўная бібліятэка рэспублікі. Катастрафічны недахоп плошчаў пад кнігасховішчы, які пагрозліва расце ўжо не па гадах, а па месяцах, тэхнічная абсталяванасць на ўзроўні XIX стагоддзя, перагружанасць чытальных залаў і, як вынік усяго, вымушанае, але непазбежнае парушэнне на працягу шматлікіх гадоў правіл бяспекі прывялі бібліятэку на мяжу катастрофы. Ужо сёння мы маем сумны пералік «папярэджанняў»: абвал стэлажоў у зале мастацтва ў лютым 1986 г., які толькі цудам не прывёў да чалавечых ахвяр; перыядычнае паданне лямп дзённага святла, якое, на шчасце, таксама пакуль не скончылася трагічна; псаванне кніжных фондаў аж да поўнай гібелі кніг у дэпазітарных сховішчах (чытай: у падвалах г. Мінска); перабоі ў рабоце з-за пагрозы пажару ў кнігасховішчы беларускага аддзела... І, нарэшце, затапленне ў жніўні гэтага года дэпазітарнага сховішча ў сутарэннях тэатра оперы і балета, у выніку якога 650 тысяч кніжных адзінак, сярод якіх старадрукаваныя выданні замежнага фонду (а гэта антычная і новаеўрапейская філасофская, а таксама літаратурная класіка ў арыгіналах), апынуліся пад рэальнай пагрозай гібелі. Не можа зняць гэтую праблему перавозка фонду ў аварыйны і не прыстасаваны для захоўвання кніг будынак на Партызанскім праспекце, 31. Гэты пералік можна было б множыць, але ці не досыць «папярэджанняў»? Ці не лічаць адказныя асобы з Міністэрства культуры і Савета Міністраў БССР, што яны зарабілі сабе індульгенцыю на чыстае сумленне прыняццем папяровага рашэння аб будаўніцтве новага будынка бібліятэкі ў 1997 годзе?

А сёння? Што рабіць сёння?

Мы патрабуем тэрмінова вырашыць шэраг прынцыповых пытанняў:

— перадаць Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна суседнія будынкі — Кастрычніцкага райкома ЛКСМБ г. Мінска, ЦК ЛКСМБ, старога архіва ЦК КПБ і былога Дома палітасветы;

— надаць Дзяржаўнай бібліятэцы імя У. І. Леніна статус навуковай установы з адпаведным фінансаваннем Савета Міністраў БССР, а не Міністэрствам культуры БССР;

— стварыць грамадскі фонд ратавання Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна і іншых занядбаных храмаў культуры.

**С. САНЬКО, аспірант Інстытута філасофіі АН БССР; Г. САГАНОВІЧ, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР; М. ТКАЧОЎ, доктар гістарычных навук, загадчык рэдакцыі выдавецтва «БелСЭ»; М. РАМАНОЎСКІ, студэнт Літаратурнага інстытута імя М. Горкага; Г. ШТЫХАЎ, доктар гістарычных навук, загадчык аддзела Інстытута гісторыі АН БССР; Х. КАШКУРЭВІЧ, мастак; С. САНКОЎСКАЯ, М. ГАНЧАРОВА, Н. ВАТАЦЫ, Л. НАВІЦКАЯ, супрацоўнікі аддзела беларускай літаратуры ДБ БССР; Д. ЛАЎРУКОВІЧ, рабочы МПМК-238; С. СОТНІКАЎ, тэхнік НВА «Гранат» і іншыя чытачы і супрацоўнікі Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна, усяго 438 подпісаў.**

# ШКОЛКА ДЛЯ ДЗЕТАК

**...Не ўсім хлопчыкам і дзяўчынкам былі зразумелыя прывітальныя словы, што гучалі для іх на першых занятках гэтай незвычайнай школы. Але спагадлівая інтанацыя, гэтаксама, як і назва — «Нядзельная школка для дзетак-беларусаў», выклікала ў іх добрыя ўсмешкі. Ды і сам урок хутчэй нагадваў гульню, у якой яны з задавальненнем прынялі ўдзел...**

**Першая ў Маскве нядзельная школа па вывучэнню беларускай мовы пачала дзейнічаць пры Таварыстве імя Ф. Скарыны ў Дзяржаўным музеі імя М. І. Калініна. Прынамсі, яе арганізатары зрабілі ўсё, каб вывесці са звыклых рамак, паклікаўшы на дапамогу песні і казкі, персанажаў лялечнага тэатра.**

**— У сталіцы жыве цяпер каля 60 тысяч беларусаў, — расказвае старшыня таварыства, кандыдат гістарычных навук А. Каўка. — Іх дзецям і ўнукам адрасаваны гэтыя занятні, мэта якіх далучыць дзятву да прыгажосці і стыхіі роднай мовы. Хочам, каб заняткі ў нашай школе ўвабралі ў сябе і лепшы вопыт сучаснай педагогікі, і культурна-асветніцкія традыцыі Беларусі.**

**ТАСС.**

Масква.

**Спачатку гэта была чутка. Яна хадзіла-блукала па берасцейскіх вуліцах, абрастала пытаннямі, домысламі, а то і невясёлымі жартамі: галадае маці траіх дзяцей — яна што, не ў сваім розуме, за штосьці змагаецца ці проста ўздумала пахудзець!.. Калі ж гэтую чутку пачалі звязваць з канкрэтным імем, з нядаўнім зборам ахвяраванняў у памяць аб рэпрэсіраваных, з начным, амаль дэтэктыўным, здарэннем, а перадусім — з публікацыяй маралізатарскага матэрыялу ў абласной газеце, якому не адразу надаў значэнне, я зразумеў, што маем справу з фактам, які патрабуе высвятлення і роздуму...**

клікалі аналогіі з сумнавядомым мінулым. Як аказалася, гэта толькі знешне ўсё здавалася спакойным. Захвалявалася ж гарадскія ўлады яшчэ задоўга да акцыі, пра якую яе арганізатары ім паведамілі загадзя. Не, афіцыйнай забароны не было, затое стэнды, якія першапачаткова афармляліся ў

# Тужлівы дэтэктыў

### Пра тое, як была спынена грамадзянская акцыя ў Брэсце

ТАК, галадоўка, якую з 13 па 28 ліпеня правяла жыхарка вёскі Кавярдзякі Брэсцкага раёна Алена Пятроўна Мазько, — прыкры факт. Прыкры тым больш, што ад яго за гукаізаляцыйнымі дзвярамі многіх кабінетаў адмахваюцца і цяпер: ну, было, але хто, маўляў, не ведае тае «барацьбіткі-пакутніцы»? Крыху раней артыкулам журналіста М. Аляксандрава «Кому доверим память?» («Заря», 17.06.1989 г.) А. П. Мазько ўвогуле была аднесена да «политиков - самодельщиков, имеющих порой одиозную репутацию» («адыёзны» ў перакладзе з лацінскай — ненавісны, агідны). Увесь націск, як бачым, безапеляцыйна рабіўся і робіцца на асабістыя якасці чалавека, на яго палітычную няспеласць, незалежна ад матываў галадоўкі і ўсяго, што ёй папярэднічала. Як у тым анекдоце: пра што можна гаварыць з лысым? Што-што, а падводзіць «мараль» мы ўмеем — гэтаму надзейнаму сродку хавацца ад складаных пытанняў і «няўгодных» высноў вучыліся, дзякаваць богу, не адзін год.

Дык што ж выклікала галадоўку?

У суботу 10 чэрвеня брэсцкая група сяброў Усесаюзнага гісторыка-асветніцкага таварыства «Мемарыял», а ў іх ліку і А. П. Мазько, выйшла на вуліцу з інфармацыйнымі стэндамі, адозвамі для збору подпісаў і скарбонкаю для грамадскіх грашовых ахвяраванняў. Гэтак пачаўся Тыдзень памяці ахвяр сталінізму — без дастатковай падрыхтоўкі, на энтузіязме тых самых «политиков - самодельщиков». Палітыку-«несамадзейніку» было за што папракнуць іх. Ці рашыўся б ён, скажам, на адназначны заклік вярнуць правы грамадзянцы Л., што знаходзіцца ў бальніцы для душэўна хворых, калі б не меў сапраўды важкіх і грунтоўных довадаў? Стыхійнасць і паспешлівасць адчуваліся і ў неўпарадкаванасці інфармацыі, і ў не адрэдагаваных як след адозвах... І ўсё ж падставы, каб абудзіць грамадскую думку, былі. Не без цікавасці знаёміліся берасцейцы з несамавітымі фотадакументамі, праграмнымі матэрыяламі таварыстваў «Мемарыял» і «Мартыралог Беларусі», газетнымі артыкуламі-выразкамі, што распавядалі пра лёсы людзей, несправядліва асуджаных у 30-х—50-х гадах. Імкнуліся таксама разабрацца ў змесце і мэце адозваў, клалі грошы на помнік у Курапатах, задавалі пытанні, часам спрачаліся. Захоўваўся парадак, акцыя праходзіла спакойна...

Але доўжыўся Тыдзень памяці... два дні. Спынены ён быў нечакана, позна ўвечары, і ўжо раніцою па горадзе папаўзлі чуткі, якія міжволі вы-

выставачнай зале абласной арганізацыі Саюза мастакоў, сталі падарожнічаць з памяшкання ў памяшканне, з кватэры ў кватэру (мо таму і не былі належна падрыхтаваны). Энтузіясты апынуліся ў становішчы пагарэльцаў, што шукаюць начлегу. «Начлег» для стэндаў нарэшце знайшоўся: вуліца Гогаля, 56. Але «заначавалі» яны тут усяго адзін раз...

З пісьмовага сведчання Алега Барысюка, навучэнца СПТВ-65 г. Брэста, жыхара дома нумар 56 па вуліцы Гогаля:

«Я знаходзіўся ў кватэры адзін. Было каля 23 гадзін вечара. Бацькі якраз паехалі на дачу. Я ляжаў у ложку і чытаў кнігу. Раптам хтосьці пастукаў у акно, я выйшаў на кухню і ўбачыў міліцыянераў, якія стаялі ў калідоры кватэры. Іх было пяць чалавек, трое — апранутыя ў форму. Старшы па званні з іх, капітан, спытаў у мяне, ці ёсць хто дома. Я адказаў, што нікога няма. Потым яны зайшлі ў пакоі і пачалі іх правяраць. Капітан, убачыўшы стэнды, сказаў: «Вось імі мы і цікавімся, возьмем з сабою, каб вывучыць...» І даў каманду грузіць стэнды ў машыну. Я пачаў перашкаджаць ім гэта рабіць, казаў: «Вы не маеце права! Стэнды аддалі нам на захаванне людзі!..» Капітан схапіў мяне пад пахі і зацягнуў

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# ДЗВЕ ГАДЗІНЫ ЗАХАПЛЕННЯ

**У рамках III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці ў мінскім Доме афіцэраў адбыўся канцэрт салдацкай музыкі, песні і танца «Мы дружбай вайсковай моцныя», у якім прыняло ўдзел больш за 300 чалавек.**

**Перапоўненая зала цёпла вітала 22 калектывы і выканаўцаў, што паказалі каля сарака нумароў надзвычай разнастайнай канцэртнай праграмы. Гучалі і творы беларускіх кампазітараў І. Лучанка, А. Іванова і іншых, а таксама выконваліся беларускія народныя песні і танцы.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

# Паводле Караткевіча

**На пляцоўцы кінастудыі «Беларусьфільм», што знаходзіцца ў вёсцы Каменка Смалявіцкага раёна, ідуць здымкі фільма паводле п'есы Уладзіміра Караткевіча «Маці Урагана», у якой адлюстроўваюцца падзеі Крычаўскага паўстання беларускіх сялян 1743 года.**

**Аўтар сцэнарыя А. Галаванаў. Рэжысёр - пастаноўшчык Ю. Марухін. У фільме прымаюць удзел артысты маскоўскіх тэатраў Людміла Палякова і Аляксандр Філіпенка, акцёр Брэсцкага драмтэатра Аляксандр Гаманюк і іншыя.**

**На масавыя эпізоды запрошаны жыхары Смалявіч, пасёлка Усяж і іншых населеных пунктаў.**

**Я. ГАВАРУШКА.**

# *ДАРУНАК ЗЕМЛЯКА*

**Мастак і мастацтвазнавец Уладзімір Дробаў родам з вёскі Растаў Акцябрскага раёна. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ён падтрымлівае сувязь з землякамі. Нядаўна Л. Дробаў падарыў нашчадкам рудабельскіх камунараў 35 сваіх карцін. Сярод іх пейзажы «Жыццё працягваецца», «Вясна ідзе», «Перад навальніцай». Прываблівае ўвагу і работа «Партрэт В. Быкава».**

**Калекцыя размясцілася ў фае раённага Дома культуры.**

**П. МАРОЗ.**

# У Полацку, на плошчы Скарыны...

**У шаснаццаты раз у Полацку прайшло скарынаўскае свята кнігі «Гучы, наша роднае слова». На плошчы, якая носіць імя першадрукара, сабраліся сотні жыхароў горада, прыйшлі новапалачане, прыехалі госці з Віцебска, Мінска. Да прысутных звярнуўся выкладчык Полацкага педагагічнага вучылішча, самадзейны кампазітар М. Пятрэнка. Нагадваючы аб подзвігу, здзейсненым Ф. Скарынам, ён падкрэсліў, што сёння, калі адбываецца сапраўднае нацыянальнае адраджэнне, найлепшая памяць аб пачынальніках — рухаць іх справу наперад, праводзіць запаветы ў жыццё.**

**Францыск Скарына і час... Паважнае стаўленне да гісторыі, захаванне нацыянальных традыцый і прапаганда роднай мовы, наданне ёй статуса дзяржаўнай.., Гэтыя праблемы арганічна ўваходзілі ў змест свята, і , натуральна, закраналіся ў выступленнях П. Макаля, М. Мятліцкага, А. Жалязоўскага Г. Дзмітрыева. І. Жарнасек, Н. Гальпяровіча, М. Барэйшы, С. Сокалава-Воюша. Гучалі паэтычныя радкі, прысвечаныя Скарыне, вершы, у якіх апяваецца прыгажосць бацькаўшчыны.**

**У Полацкай бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылося святочнае пасяджэнне гарадскога клуба кнігалюбаў, якое вёў М. Барэйша. Актыўны ўдзел у яго рабоце прынялі пісьменнікі. Да свята падключыліся і школы, дзіцячыя ўстановы горада. Напрыклад, у СШ № 11 была арганізавана выстаўка побыту рамёстваў. Прыцягнула ўвагу дзяцей выстаўка фотаздымкаў і работ выяўленчага мастацтва «Родныя краявіды». На працягу тыдня ў школах праводзіліся ўрокі і пазакласныя мерапрыемствы, канферэнцыі па кнізе А. Клышкі «Францыск Скарына».**



Вядзе скарынаўскае свята М. ПЯТРЭНКА.

**Са сваёй канцэртнай праграмай «Анталогія беларускай песні» выступіў заслужаны артыст БССР В. Скорабагатаў. У кінатэатрах дэманстраваліся лепшыя стужкі «Беларусьфільма» мінулых гадоў, а таксама новыя работы кінематаграфістаў рэспублікі. Восеньскі вернісаж падарыў маляўнічае сузор'е работ, выкананых мастакамі з рознымі творчымі почыркамі.**

**Ул. КРУК.**

Фота аўтара.

---

у суседні пакой, а сам стаў у дзвярах. Нарэшце міліцыянеры вынеслі ўсе стэнды. Я зірнуў у акно і ўбачыў «рафік» пад нумарам 10-49 МИМ...»

Так яно было. Хочаш не хочаш, а ставіш сябе на месца А. Барысюка. Вось у твой прыціхлы дом заяўляецца група людзей. Без прад'яўлення якіх-небудзь дакументаў аглядаюць кватэру, забіраюць чужыя рэчы...

Звернемся да ўжо цытаванага артыкула абласной газеты: «...В итоге исполнительный комитет городского Совета народных депутатов постановил запретить проведение этой акции и обязал все собранные средства перечислить в госжилсоцбанк». Далей аўтар піша: «Не буду комментировать решение горисполкома, хотя оно оставило поводы для вопросов». Ну і ну!.. Але бог з ёю, з пазіцыяй абласнога журналіста! Паспрабуем высветліць, ў выніку чаго была спынена акцыя.

У рашэнні гарвыканкома, а тэкст яго амаль цалкам працытаваны ў «Заре», усё зводзіцца да «несанкционированного сбора денежных средств», якія да таго ж «были переданы для хранения неизвестным лицам». Паверыць у гэтую адзіную прычыну немагчыма. Па-першае, у якім кодэксе або ўказе гарвыканкомаўцы вычыталі пра неабходнасць іхняй санкцыі на грамадскі збор сродкаў ды яшчэ для такой высакароднай мэты, як узвядзенне помніка ахвярам беззаконня? Забаронена нашымі законамі папрашайніцтва — агульнавядома, ды гэта ўжо зусім іншае. Па-другое, у рашэнні яскрава прасочваецца спроба выставіць удзельнікаў Тыдня памяці як мажлівых ашуканцаў, махляроў, якія, само сабой, павінны адказваць у крымінальным парадку. Дый тут усё шыта белымі ніткамі. Ніякіх падстаў падазраваць іх нават у памкненні прысвоіць грошы няма. Сабраныя ў якасці добраахвотных ахвяраванняў, грошы падлічваліся прынародна, у прысутнасці міліцыі, а перадусім быў складзены пратакол сходу ініцыятыўнай групы, якім яна абавязвалася ў канцы Тыдня памяці праінфармаваць насельніцтва, ці пералічаны грамадскія ахвяраванні па прызначэнні (дарэчы, грошы сапраўды накіраваны на будаўніцтва помніка ў Курапатах). Не сумняваюся, што пра гэта ўсё ў гарвыканкоме ведалі: мне самому даводзілася бачыць яго работнікаў, у прыватнасці, намесніцу старшыні Л. П. Пірагоўскую каля стэндаў. Проста ўладам карцела хоць за штонебудзь зачапіцца, каб сарваць «несанкционированное» мерапрыемства задоўга да яго заканчэння. Падумаць толькі: цэлы тыдзень будуць красавацца на людзях стэнды з «выбуховымі» матэрыяламі! Можна меркаваць, што асабліва мазолілі вочы ўладам копіі іхніх адмоў у правядзенні грамадскіх мітынгаў і сходаў, у тым ліку напярэдадні выбараў народных дэпутатаў СССР. І подпісы пад адмовамі ўсе знаёмыя, да прыкладу — той жа Л. П. Пірагоўскай.

Урэшце, ёсць яшчэ адно, ці не самае галоўнае сведчанне неправамоцнасці прынятага выканкомам рашэння. Справа ў тым, што прынята яно было 12 чэрвеня, а грамадзянская акцыя гвалтоўна была спынена на дзень раней, а 23-й гадзіне, так што патрабавалася зусім іншае рашэнне — аб правапарушэннях, дапушчаных міліцыяй. Ды яны, як бачым, спешным парадкам былі прыкрыты... фігавым лістком (даруйце, папяровым аркушам).

Збіраючы матэрыял для артыкула, гутарыў я і з маці Алега Барысюка, медыцынскай сястрою Аленай Аляксандраўнай. Яна ў той неспакойны вечар вярнулася дахаты пасля візіту няпрошаных гасцей і пра ўсё даведалася ад сына. Аднак дадала, што чакаць гэтага і трэба было, бо яшчэ 10 чэрвеня заўважыла, як прагульваліся пад акном людзі ў міліцэйскай форме. З размовы высветлілася і больш істотнае пытанне: чаму найперш А. П. Мазько, а не хто іншы з брэсцкіх сяброў «Мемарыяла», забіў трывогу аб знікнуўшых стэндах? Ды таму, што не хто іншы, а менавіта А. П. Мазько прасіла гаспадыню прыняць стэнды нанач, на захоўванне. «З Мазько мы дагэтуль не былі знаёмыя, — сказала Алена Аляксандраўна, — проста высветлілася, што зямлячкі, нарадзіліся ў суседніх вёсках Іванаўскага раёна». Не ўтрымаўся, каб не пацікавіцца, ці ведала гаспадыня, што могуць быць непрыемнасці ад гэтых стэндаў? «Так, дапускала і такое, — прызналася яна. — Мяне на ўсялякі выпадак папярэдзілі Лена і яе сябры. Не ведаю, мо і не ва ўсім праўда на іхнім баку, але такіх людзей варта падтрымліваць, не для сябе стараюцца...» Не надта каб весела пасміхнулася: «Думала, завітае хто з улад — заўважыць не толькі стэнды... Колькі ўжо разоў звярталася ў гарвыканком з просьбаю палепшыць жыллёвыя ўмовы, а ўсё па-ранейшаму — з мужам і чатырма дзецьмі жывём у старой, цеснай і сырой кватэры».

Цікава, што праз некалькі дзён пасля здарэння гаспадыню выклікалі ў аддзел унутраных спраў Ленінскага райвыканкома г. Брэста. Там яна (даруем ёй за непаслядоўнасць) дала распіску ў тым, што адмаўляецца ад далейшага захоўвання «злашчасных» стэндаў. Навошта міліцыі спатрэбілася тая распіска, калі стэнды і так ужо не захоўваліся ў кватэры А. А. Барысюк, для мяне загадка. Дзеля «прафілактыкі» або перастрахоўкі? Ці толькі для таго, каб на «законных» падставах вярнуць рэчы іхнім уладальнікам?

Як бы ні было, а стэнды, ужо даволі абтрэпленыя, амаль праз тыдзень (Тыдзень памяці!) былі сапраўды вернуты — прывезены грузавіком у Кавярдзякі і пакінуты каля дома А. П. Мазько. Заставаліся, аднак, яе лісты-скаргі ў розныя інстанцыі, а пазней — і заявы пра галадоўку. Ды, аказваецца, і з імі можна не цырымоніцца. Вось адказ з пракуратуры Брэсцкай вобласці за подпісам намесніка пракурора І. К. Грэчкі: «На Ваши жалобы сообщаю, что проведенной прокуратурой Брестской области проверкой нарушений законности по отношению к Вам со стороны работников Ленинского РОВД не установлено..» Адказ гэты датаваны 20 ліпеня 1989 года. Ішоў сёмы дзень, як А. П. Мазько аб'явіла галадоўку пратэсту.

...Я ў кабінеце І. К. Грэчкі. Іван Кірылавіч пільна ўзіраецца ў маё пасведчанне: «Ведаеце, не надта давяраю пішучым». Спрабую ўсё ж распачаць гаворку. Іван Кірылавіч ахвотна распавядае, які ўклад робіць абласная пракуратура ў перагляд спраў і рэабілітацыю незаконна асуджаных і пакараных у сталінскія часы. На Брэстчыне вернута добрае імя ўжо болей чым дзвюм тысячам людзей. Пра гэта я ведаю, як ведаю і тое, што сам намеснік пракурора ўнёс у гэтую высакародную справу немалы ўклад. Таму наважваюся спакваля перайсці ад самаўпраўстваў мінулых да сёняшніх, зусім свежых: як, маўляў, расцэньваеце нядаўнія паводзіны міліцыі — наколькі законнымі яны былі? Іван Кірылавіч увачавідкі насцярожваецца і раздражнёна адказвае: «Ёсць у мяне свая думка наконт гэтага, але выказвацца не буду — не я тут галоўны начальнік». Без усякай ужо надзеі пытаюся, ці паступала ў абласную пракуратуру заява ад А. П. Мазько пра аб'яўленую ёю галадоўку? «Паступала, — адказаў мой размоўца, — ды карміць з лыжкі мы нікога не збіраемся...»

Гэтак жа «шчыра» пагутарылі мы і з намеснікам начальніка па палітчастцы Ленінскага РАУСа г. Брэста Мікалаем Аляксеевічам Бойкам. Нампаліт не адмаўляў, што ў нядаўняй «аперацыі» ўдзельнічалі яго падначаленыя, але таксама апраўдваў і іх, і самога сябе абавязкам захоўваць дысцыпліну, а заадно і субардынацыю: маўляў, і над намі ёсць камандзіры: які б ні быў загад, а выконвай. «Словам, складана ўсё», — неяк, падалося, вінавата пацiснуў ён плячыма. Мо нават пашкадаваў, што не можа даць адказу па сутнасці. А мне ў сваю чаргу стала чамусьці шкада яго... З тым і развіталіся.

Дык як жа сумясціць увесь гэты інцыдэнт, яго акалічнасці і сумныя вынікі з курсам нашага грамадства на стварэнне прававой дзяржавы, на ўсталяванне справядлівасці ў дачыненні да кожнага чалавека? Да кожнага, нават калі ён не выклікае ў кагосьці асаблівых сімпатый? Ні палітычная няспеласць, ні схільнасць да авантурнасці, у чым таксама папракаюць А. П. Мазько і яе сяброў па «Мемарыялу», не могуць быць падставай для падаўлення грамадскай ініцыятывы, прычым любымі сродкамі, у абыход не толькі прававых нормаў, а і нормаў маралі. «Неправ тот, у кого меньше прав»? 15-дзённая галадоўка Алены Пятроўны Мазько была якраз адчайным пратэстам супраць гэтага прынцыпу.

**Алесь КАСКО.**

г. Брэст.





## З пошты «ЛіМа»

# •Гасразлік: беларуская мадэль?

# •Што хвалюе вайскоўца

# •Першы блін...

□

**Хацеў бы надзяліцца** на старонках «ЛіМа» сваімі думкамі аб праекце агульных палажэнняў «Перабудовы кіраўніцтва эканомікай у БССР на прынцыпах самакіравання і самафінансавання».

Па-першае, хачу заўважыць, што публікацыя дакумента яўна спазнілася. Між тым, наколькі мне вядома, распрацоўка яго пачалася яшчэ ў сярэдзіне 1988 года, але вось на ўсеагульнае абмеркаванне вынесены ён чамусьці ўпершыню. Можа, выкажу і спрэчную думку, але складваецца ўражанне, што ўсё гэта «ўтойванне» патрэбна было для таго, каб у апошні момант зацвердзіць праект як закон, без істотных змен і прынцыповага ўліку выказаных заўваг. Гэта тым больш так, што да пачатку перахода рэспублікі на прынцыпы рэгіянальнага гасразліку засталося менш як чатыры месяцы.

Цяпер па сутнасці разглядаемага дакумента. Праект складана чытаць, бо ў ім разглядаюцца вельмі вялікія блокі, без патрэбнай, на мой погляд, унутранай структурызацыі, выдзялення галоўных момантаў (хаця такое выдзяленне зроблена, напрыклад, і ў агульнасаюзных прынцыпах, і ў аналагічных прыбалтыйскіх канцэпцыях). Гэта нібы і не мае прынцыповага характару, аднак дазваляе шэраг істотных момантаў уводзіць метадам «складвання», без дастатковай расшыфроўкі, размыта. Інакш кажучы, раз-пораз даводзіцца шукаць «іголку ў стозе сена».

Істотны недахоп праекта — яўная нераспрацаванасць пытанняў уласнасці. Так, чакаецца агульнасаюзны закон аб уласнасці — ён, маўляў, усё і растлумачыць. Але ж распрацоўка пытанняў уласнасці — галоўны момант, стрыжань пабудовы дзейнай мадэлі рэгіянальнага гаспадарчага разліку. І вось пра гэты стрыжань гаворыцца толькі ў маленькім абзацы II раздзела агульных палажэнняў.

Таксама слаба распрацавана пытанне падаткаабкладання, банкаўскай сістэмы. Аўтары праекта чамусьці не разгледзелі вельмі прынцыповае пытанне — узаемаадносін рэспубліканскага і саюзнага бюджэтаў. У самым агульным выглядзе разглядаецца кампетэнцыя абласнога і раённага звяна мясцовага кіравання і г. д.

Патрабуе дадатковай расшыфроўкі абзац той часткі праекта, дзе гаворыцца аб магчымых датацыях за кошт сродкаў вышэйстаячага бюджэту мясцовага Савета — ніжэйстаячаму, пры недахопе даходаў у апошніх. Дзеля таго, каб сапраўды стымуляваць ініцыятыву на месцах, а не патураць спажывецкім настроям, трэба было б строга агаварыць выпадкі такой кампенсацыі.

У V раздзеле праекта выклікае сумненне абзац, дзе мясцовым Саветам прапануецца планы сацыяльна-эканамічнага развіцця распрацоўваць на падставе планаў усіх прадпрыемстваў і ведамстваў, што знаходзяцца на адпаведнай тэрыторыі. Такі падыход ёсць ні што іншае, як заганная практыка застойнага часу, калі план па тэрыторыі ўяўляў сабой простую суму планаў прадпрыемстваў і арганізацый. Мясцовыя Саветы, на мой погляд, у новых умовах не толькі могуць, але і абавязаны распрацоўваць альтэрнатыўны план па тэрыторыі, з улікам яе праблем і запытанняў. І толькі на наступным этапе выпрацоўваць агульны ўзгоднены план, скажам, на ўмовах кансэнсуса.

Хацелася б таксама звярнуць увагу на пытанне, якое абавязкова павінна было прысутнічаць у разглядаемым праекце. Гэта спецыфіка рэгіянальнага гаспадарання значнай часткі тэрыторыі рэспублікі пасля чарнобыльскай аварыі. Відавочна, што такія асаблівасці ёсць і будуць, хочам мы таго ці не. Гэта і пытанні рознага роду кампенсацый, і міграцыйныя працэсы, і пытанні матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і г. д.

Ёсць яшчэ шэраг заўваг, але каб не злоўжываць цярпеннем чытачоў, скажу, што прапанаваны да абмеркавання праект цяжка назваць беларускай мадэллю рэспубліканскага гасразліку. Якраз беларускай «начынкі» ў ім і няма.

**К. ЛАГОЎСКІ,**
**кандыдат эканамічных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі АН БССР.**

г. Мінск.

□

**26 жніўня** па даручэнні Рады Таварыства беларускай мовы я прысутнічаў на педагагічным сходзе настаўнікаў Віцебскага раёна, які адбываўся ў памяшканні пэдінстытута. Па завядзёнцы падаў запіску ў прэзідыум з просьбай дазволу на выступленне. Сяджу, чакаю, аж пакуль не зразумеў, што мне проста не хочуць даваць слова. Дацягнулі да самага закрыцця нарады і толькі тады па маім асабістым запытанні і з дазволу схода мяне дапусцілі да мікрафона. Відаць, нешта ў маёй асобе кіраўніцтву раёна, якое поўнасцю «ўпрыгожыла» сабой рабочы прэзідыум, не спадабалася, хаця кіраўнік схода ведаў, што я хачу выступіць, ведаў, аб чым буду гаварыць. Мэта майго выступлення была простая — паспрыяць стварэнню ініцыятыўнай групы па падрыхтоўцы раённага схода Таварыства беларускай мовы. Не паспеў я сказаць аб гэтым, як быў бесцырымонна спынены першым сакратаром Віцебскага райкома партыі В. С. Трафіменкам. Маўляў, мы самі на нарадзе дырэктараў школ падбяром патрэбных людзей і ўтворым арганізацыйныя структуры ТБМ. Чаму насуперак платформе партыі аб супрацоўніцтве з прадстаўнікамі самадзейных аб'яднанняў партыйны кіраўнік адсякае ўсялякую магчымасць дыялога? І што было страшнага ў прапанове стварэння камітэта па падрыхтоўцы раённага таварыства?

Ад каго ж зыходзіць канфрантацыя?

**М. ПАЎЛАЎ,**
**член Рады Таварыства беларускай мовы.**

г. Віцебск.

□

**У Магілёве** адбылася цікавая падзея — дэбют «Дыскусійнай трыбуны». Яе ўдзельнікі (інтэлігенцыя, рабочыя, служачыя, пенсіянеры) абмеркавалі праблемы двухмоўя і развіцця беларускай нацыянальнай культуры.

Найбольш яркімі, аргументаванымі, насычанымі канкрэтнымі фактамі і прапановамі мне падаліся выступленні Я. Клімуця, І. Аношкіна, В. Ермаловіча і інш. Да ўсяго яшчэ яны гучалі на роднай мове.

Тэму нават «недагаварылі» — багата засталося заявак невыступіўшых прамоўцаў. Калі праблемы двухмоўя ў рэспубліцы ў асноўным былі высветлены, то праблемы нацыянальнай культуры толькі закрануты, бо не хапіла часу. Дамовіліся, што дыскусія будзе прадоўжана. Тым больш здзівіла паведамленне абласной газеты «Магілёўская праўда» ад 15. 8. 89 г., што чарговая сустрэча — 14 верасня. Тэма — «Рэгіянальны гаспадарчы разлік: якім яму быць?» Вядома, тэма гэтая таксама актуальная, патрэбная. Але не закончыўшы адну тэму, кідацца на другую — неяк нелагічна. Тым больш, насуперак дамоўленасці. На маю думку, калі не высветліць, не разабрацца ў праблемах і пытаннях нацыянальнай культуры і духоўнасці, то размова пра гаспадарчы разлік будзе фармальнай. Бо культура, духоўнасць рухаюць працэс перабудовы. Няўжо не бачаць гэтага кіраўнікі магілёўскай гарадской арганізацыі таварыства «Веды», пры якой адкрыта «Дыскусійная трыбуна»?

Не абышлося на дыскусіі і без іншых прыкрасцей. Не было мікрафона ў зале. Таму многія пытанні прысутных прамоўцы проста не чулі, прысутныя таксама не чулі прамоўцаў. Вядучы, старшыня рабочага савета «Дыскусійнай трыбуны» кандыдат філасофскіх навук М. Я. Ліхачоў заяўкі на выступленні тасаваў, як яму хацелася. Калі ж не падабалася думка, ці прапанова прамоўцы, то перабіваў: «Не па тэме». Хоць прыклады ці факты прыводзіліся менавіта па тэме.

Каб не быць галаслоўным, спашлюся на такі факт. Выступленне народнага дэпутата СССР С. Габрусёва вядучы перапыняў не менш пяці разоў, задаваў яму правакацыйныя пытанні, не даваў яму закончыць адказы на пытанні прысутных. Склалася ўражанне, што проста зганяе прамоўцу з трыбуны, хоць той рэгламенту не парушаў.

Але, як кажуць, першы блін комам.

**В. АРЦЕМ'ЕЎ,**
**член КПСС з 1951 года, ветэран працы.**

г. Магілёў.

□

**Цалкам** згодзен з думкай З. Пазняка, выказанай ім у артыкуле «Яшчэ раз пра двухмоўе» («ЛіМ», 21. VII. 1989), аб тым, што білінгвізм «спараджае паўмоўе і звязаную з ім паўкультурнасць». Што гэта так — пераканаўся на ўласным вопыце.

Паўкультурнасць, аб якой піша Пазняк, ёсць менавіта эрзац-культура, структура якой аднолькавая для ўсіх нацый, якія насяляюць Савецкую Федэрацыю. Першае тлумачыць, чаму птушкідзеці не толькі не вяртаюцца ў шпакоўні бацькоў, але чаму яны імкнуцца збегчы ад іх. Вяртацца можна ў тое гняздо, дзе цябе разумеюць і дзе засталіся неадрыўныя ад тваёй істоты каштоўнасці, без якіх табе будзе няўтульна на ўсім зямным шары. У бацькоў такія каштоўнасці ёсць—гэта мова і песні, якім трэба быць адданым цалкам, а не напалову. Паўпрынцыповасць — гэта абыякавасць. Нас, моладзь, жыццё больш выхоўвала менавіта паўпрынцыповымі, паўадданымі і... паўмоўнымі. Справа ў тым, што існуе феномен «двухмоўнага эсперанта», а кажучы ясней — «блатны» набор слоў і сказаў, жаргон абывацеля. Ён аднолькавы на Беларусі і ля Чорнага мора, толькі фанетычныя нюансы розныя. Аснова яго, гэтага вар'яцкага спараджэння «адміністрацыйна-каманднага дэбіла» (А. Адамовіч) — рускамоўны сіндром, які праяўляецца ў штучным спалучэнні рускіх каранёў і беларускіх канчаткаў і г. д. Гэта ні ў якім разе не руская мова, гэта штучны жаргон, аб чым пісаў на старонках «ЛіМа» Пімен Панчанка.

Акцэнт павінен быць зроблены на нацыянальнае, а не на двухнацыянальнае. Гэта не будзе адмаўленнем ад рускай культуры і мовы. Проста ў нас яны больш чым дасканала вывучаюцца ў школах і ВНУ. Трэба ўдыхнуць сілу ў нашы карані, бо на слабых, тым больш падарваных карэннях нават самая прыгожая крона не ўтрымаецца.

Маленькі прыклад са сваёй практыкі. Я скончыў беларускую васьмігодку, а 9—10 класы — у рускай сярэдняй школе ў суседнім гарадскім пасёлку. У выніку магу размаўляць як на беларускай, так і на рускай мове (літаратурнай). Пераходжу ў гаворцы з беларускай мовы на рускую амаль без цяжкасцей, тым больш, што жыццё (армія) прымушае гэта рабіць часта. Але гэта выпадкі, калі білінгвізм ідзе ад жыцця, ад кар'еры, калі хочаце.

Тым не менш, культурнай субстанцыяй, як кажуць філосафы, беларуса павінна быць толькі адна мова — беларуская. Субстанцыя бывае толькі адна. І размовы пра дамініраванне псіхічнага складу ў нацыянальным — не больш чым бюракратычная сафістыка.

Хацелася б узняць яшчэ пытанне аб Беларускім радыё. Я, напрыклад, чытаю беларускую прэсу і рэгулярна слухаю... беларускую праграму радыёстанцыі «Свабода» — у Сярэдняй Азіі. Паслухаць якасна Мінск на сярэдніх хвалях практычна немагчыма і нязручна ўжо ў Вільнюсе (тут я вучыўся чатыры гады ў ваенным вучылішчы).

Ды і ў Беларусі навошта рабіць устаўкі рускіх інфармацыйных праграм (з «Маяка» і г. д.)? Словам, лічу слушнай прапанову аб удасканаленні Беларускага радыё, пераходзе, напрыклад, на доўгія хвалі.

**Ю. ЗАЛОСКА,**
**ваеннаслужачы.**

Казахская ССР.

□

**За апошні час** у арсенале актывістаў мінскай арганізацыі Таварыства аматараў кнігі быў назапашаны значны вопыт прапагандысцкай работы. Яе эканамічныя паказчыкі ў Саюзе таксама лічыліся лепшымі. Але на чацвёртым з'ездзе аматараў кнігі рэспублікі нечакана ўзнікла ідэя аб скарачэнні яе як самастойнай адзінкі. Сам гэты факт выклікаў на з'ездзе канфліктную сітуацыю.

Паэт А. Вольскі падтрымаў выступленне адказнага сакратара гарадской арганізацыі кнігалюбаў Г. Ігнатковіч: маўляў, нам трэба быць цярплівымі і тактоўнымі. А дэлегат А. Ойстрах заявіў адназначна: скараціць гарадское праўленне аматараў кнігі і ўсё тут...

Члены прэзідыума БТАК чатыры разы збіраліся за «круглым сталом» і чатыры разы прымалі рашэнне: захаваць праўленне гарадской арганізацыі, напалавіну скараціўшы яго. Довады былі самыя грунтоўныя. Напрыклад, мінская гарадская арганізацыя аматараў кнігі — адна з самых буйных у краіне. Яна аб'ядноўвае 1370 пярвічных арганізацый, у якіх больш за 115 тысяч членаў. Працуюць універсітэт «Чалавек і кніга», больш чым 60 клубаў па інтарэсах.

Для разумення сутнасці справы неабходна дадаць наступнае. Прэзідыум гарадской арганізацыі кнігалюбаў (заўважым: адзіны сярод абласных арганізацый рэспублікі) напалавіну скараціў штат, зрабіў яго рацыянальным, уплывовым механізмам кіравання.

Аднак здаровы сэнс знікае, калі гуляе хваля эмоцый, як гэта здарылася на з'ездзе. Ідэя разбурэння — рызыкоўная ідэя, калі яна не адпавядае закону народнай мудрасці: «сем разоў адмерай». Але яна, надзіва, часта бывае прыцягальнай.

Да дэлегатаў з'езда не былі даведзены пастановы пасяджэнняў прэзідыума рэспубліканскага праўлення аб захаванні гарадской арганізацыі як самастойнай адзінкі. Да таго ж, пытанне аб гарадской арганізацыі было вынесена на галасаванне з'езда, хоць на парадку дня яно не стаяла.

І самае, бадай, галоўнае. Як бы высока ні ўзыходзіла наша дэмакратызацыя па нялёгкіх ступенях, высновай павінна быць нізавое звяно. А ў дадзеным выпадку яго пераскочылі і зрабілі ўсё па мерках адміністрацыйна-бюракратычнага парадку: рашэнне наша — лёс ваш. На справе гэта атрымалася так. У 44 членаў праўлення гарадской арганізацыі, якім давер'е аказалі больш 115 тысяч аматараў кнігі, ніхто нават не спытаў, што яны думаюць аб лёсе сваёй арганізацыі, што прапануюць. Тым больш, што гэта арганізацыя мае самастойную эканамічную аснову: яна на гаспадарчым разліку. У яе не менш складаныя задачы, чым у іншых абласных арганізацыях, калі ўлічваць, што яна працуе ў адміністрацыйна-палітычным і культурным цэнтры рэспублікі.

**П. ВЕРАБ'ЕЎ,**
**член СЖ СССР.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Гэты ліст можна было б пакінуць і без каментарыяў. Нельга не пагадзіцца з думкай нашага чытача аб тым, што разбураць заўсёды лягчэй, чым ствараць, што нельга адкідваць карысны вопыт. А парушэнне дэмакратычных прынцыпаў, асабліва калі яно мае месца ў грамадскай (!) арганізацыі, заслугоўвае адназначнага асуджэння.**

**І ўсё ж такі хацелася б, звярнуць увагу вось на што. Аўтар пісьма гаворыць пра колькасць членаў сваёй арганізацыі, колькасць клубаў і пярвічных, пра эканамічныя паказчыкі (хоць і прызнае, што яны — не галоўнае) і г. д. Але ён нічога не гаворыць пра тое, наколькі плённай была дзейнасць сталічнай (ды і ўсіх іншых) арганізацыі кнігалюбаў для прапаганды кнігі. І перш за ўсё — беларускай.**

**Міхась БІЧ,**
доктар гістарычных навук

# КАНЦЭПЦЫЯ ПРАЎДЫ

**Аб асвятленні гісторыі беларускага нацыянальнага руху**

У ДАКАСТРЫЧНІЦКАЙ гісторыі беларускага народа вядомы часы — цэлыя стагоддзі, — калі пануючыя класы, чыноўнікі, інтэлігенцыя амаль цалкам выракаліся роднай мовы, культуры, традыцый і звычаяў. Нацыянальная мова, культура захоўваліся і развіваліся тады толькі дзякуючы сялянству. У наш час, у выніку раскрестьяньвання вёскі, якое адбылося на працягу апошніх 60 гадоў, і іншых зменаў у грамадстве, знікае апошняя сфера бытавання, жыццядзейнасці нацыянальнай мовы і культуры, высыхае галоўны, самы магутны корань, што жывіць нацыю, — вясковы, сялянскі корань. Доказаў, адпаведных фактаў кожны з нас ведае шмат. Дастаткова паслухаць хоць бы радыёперадачу «Сельская раніца»: на беларускамоўныя пытанні радыёкарэспандэнтаў беларуская вёска адказвае, як правіла, па-руску, часта — казёнымі, штампаванымі фразамі, або — «трасянкай». І ў гэтай з'яве — галоўная небяспека. Знікае асяроддзе, на якім стагоддзямі трымалася нацыянальная культура. Такой крытычнай сітуацыі ў нашай гісторыі яшчэ не было ніколі.

Гэта, лічу, ёсць вынік дзейнасці камандна-адміністратыўнай сістэмы, бацькам якой быў Сталін. Пэўную долю віны і адказнасці павінны ўсвядоміць і ўзяць на сябе беларускія гісторыкі — за тое, што зрабілі не ўсё магчымае дзеля выхавання ў народзе гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці. Непасрэднае дачыненне да праблемы нацыянальнага нігілізму мае, у прыватнасці, гістарыяграфія гісторыі беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

**Дамовімся адразу, як разумець паняцце «нацыянальна-вызваленчы рух». Паводле Леніна, гэта грамадскі рух, адной з галоўных задач якога з'яўляецца забеспячэнне адзінства нацыянальнай мовы, свабоды яе развіцця і замацавання ў літаратуры. Гэтым патрабаванням нацыянальнага жыцця найбольш адпавядае дзяржаўнае аб'яднанне тэрыторый з насельніцтвам, якое гаворыць на адной мове. Стварэнне нацыянальнай дзяржавы, падкрэсліваў Ленін, з'яўляецца тэндэнцыяй усякага нацыянальнага руху прыгнечаных народаў (гл.: Творы, т. 20, с. 372). Таму спробы некаторых грамадазнаўцаў падмяніць паняцці — лічыць нацыянальна-вызваленчым рухам чыста класавы рэвалюцыйны рабочы і сялянскі рух супраць царызму, памешчыкаў і капіталістаў — трэба прызнаць ненавуковымі і бясплённымі: акрамя беспрасветнай блытаніны, яны ў навуку нічога не ўносяць. Такія спробы, у прыватнасці, яскрава праявіліся ў «Очерках истории КПБ, ч. 1» (Мн., 1968, с.22, 91), у многіх іншых працах беларускіх гісторыкаў 50—70-х гадоў. В. Яфрэмава, напрыклад, пісала: «Формай нацыянальна - вызваленчага руху на ўскраінах Расіі, у т.л. і на Беларусі, стала перш за ўсё барацьба сялян за зямлю» («Из истории общественной мысли Белоруссии конца XIX — начала XX в.» Мн., 1972, с.61). Рабілася гэта свядома — з мэтай аб'явіць сапраўдны нацыянальна-вызваленчы рух буржуазна - нацыяналістычным, контррэвалюцыйным, па сутнасці — антынародным. Маю на ўвазе перш за ўсё ацэнкі дзейнасці Беларускай сацыялістычнай грамады і яе газет «Наша доля» і «Наша Ніва» — першых у гісторыі беларускага народа легальных перыядычных выданняў на яго роднай мове. Але пра гэта ніжэй.**

Зараз хацелася б спыніцца на пытанні аб нацыянальнай праграме К. Каліноўскага. На жаль, да нас не дайшло амаль нічога напісанага ім па гэтым пытанні. Але беларускія гісторыкі 20-х гадоў (А. Цвікевіч, У. Ігнатоўскі), спасылаючыся на кнігу паплечніка М. Мураўёва генерала В. Ратча, а таксама ўспаміны відных дзеячаў паўстання 1863 г. (як «чырвоных», так і «белых»), адзначалі, што Каліноўскі выступаў з патрабаваннем самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі, як беларускі патрыёт. Супраць такіх ацэнак у канцы 20-х гадоў і пазней заўзята змагаўся С. Агурскі, які лічыў Каліноўскага польскім шавіністам, ідэолагам польскай шляхты, што выступала за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Ігнатоўскі ўжо ў 1930 г. стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій і пункт гледжання Агурскага перамог. Праўда, у канцы 30-ых гадоў Каліноўскага зноў прызналі рэвалюцыйным дэмакратам, а ў 1945 г. акадэмік АН БССР У. Перцаў апублікаваў артыкул, у якім падкрэсліў, што Каліноўскі змагаўся за ўтварэнне самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі і ацаніў гэта станоўча. «Тэзісы аб асноўных пытаннях гісторыі БССР» (1948 г.), адным з аўтараў якіх быў Перцаў, не адмаўлялі наяўнасці ў Каліноўскага адзначанага лозунга, але ён ацэньваўся ўжо як памылковы. А ў першым томе «Истории БССР», выдадзеным у 1954 г. пад рэдакцыяй У. Перцава, К. Шабуні і Л. Абэцэдарскага, сцвярджалася, што «намер стварэння Літоўска-Беларускай рэспублікі, адарванай ад Расіі, Каліноўскаму прыпісалі беларускія буржуазныя нацыяналісты». Такім чынам, У. Перцаў цалкам адмовіўся ад сваёй ранейшай пазіцыі па гэтым пытанні. Погляды Каліноўскага, заявіў ён далей, «адпавядалі даўнім імкненням беларускага народа ўз'яднацца з вялікім рускім народам у адзінай братняй сям'і». Як бачым, аўтары і рэдактары кнігі прыпісалі Каліноўскаму намер ажыццявіць тое, што ў канцы XVIII ст. здзейсніла імператрыца Кацярына II. Вядомы беларускі філосаф І. Лушчыцкі ацэньваў патрабаванне незалежнай Літоўска-Беларускай рэспублікі ў час паўстання 1863 г. як контррэвалюцыйнае і рэакцыйнае. З такой ацэнкай у 50-я гады пагаджаўся і А. Смірноў. Апошні, аднак, у пачатку 60-х гадоў прызнаў яе памылковай, немарксісцкай. Пазней беларускія гісторыкі ўвогуле не сталі ўпамінаць пра пастаноўку Каліноўскім пытання аб утварэнні самастойнай Беларуска - Літоўскай рэспублікі, абмяжоўваючыся агульнай фразай, што ён выступаў за права ўсіх народаў на самавызначэнне свайго лёсу.

Пасля незвычайна жорсткай расправы з паўстанцамі 1863 г. і ўсімі, хто ім дапамагаў, вызваленчы рух на Беларусі адрадзіўся толькі з часу другой рэвалюцыйнай сітуацыі, якая ўтварылася ў Расіі ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў XIX ст. Менавіта ў той час сярод беларусаў-студэнтаў пецярбургскіх і іншых ВНУ, а таксама мясцовай вучнёўскай моладзі ўзніклі народніцкія гурткі. Некаторыя з іх у сваіх нелегальных выданнях («Да беларускай моладзі», «Пісьмы пра Беларусь», «Пасланне да землякоў-беларусаў», «Да беларускай інтэлігенцыі», двух нумарах часопіса «Гоман») заявілі аб існаванні этнічна самастойнай беларускай нацыі, тэарэтычна абгрунтавалі гэты вывад і сфармулявалі праграму беларускага нацыянальна - вызваленчага руху (права беларускага народа «на федэратыўную самастойнасць у сям'і іншых народнасцей Расіі»).

**Названыя творы беларускіх народнікаў — выдатныя помнікі нацыянальнай грамадскай думкі. Аднак да пачатку 70-х гадоў яны па сутнасці замоўчваліся ў нашай гістарыяграфіі. Я. Карнейчык нават у спецыяльнай манаграфіі, прысвечанай праблеме ўтварэння беларускай нацыі (1969 г.), абышоў праграму і дзейнасць вядомай яму групы «Гоман». Ідэі «Гомана» не раскрываліся ў школьным падручніку па гісторыі БССР Л. Абэцэдарскага, М. Баранавай і Н. Паўлавай (12 выданняў) і нават у навучальным дапаможніку для студэнтаў - гісторыкаў, выдадзеным у 1981 г. пад рэдакцыяй А. Ігнаценкі і В. Чапко. Думаецца, што рабілася гэта свядома — з мэтай не даць настаўніку-гісторыку, школьнай і студэнцкай моладзі матэрыялу, на якім магло прарасці зерне нацыянальнай свядомасці. Названыя аўтары і рэдактары разам з кіраўнікамі былых міністэрстваў асветы і вышэйшай адукацыі БССР яўна ігнаравалі акадэмічную «Гісторыю Беларускай ССР», т. 2 (1972 г.) і манаграфію С. Самбук «Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине XIX в.» (1976 г.), дзе «Гоман» і іншыя выданні беларускіх народнікаў разгледжаны даволі грунтоўна. У 1985 г. усе яны апублікаваны ў зборніку «Публицистика белорусских народников» (укладальнікі С. і І. Александровічы). Але тыраж зборніка (2 тыс.) зусім невялікі і вядомасць яго, відаць, не выйшла за межы вузкага кола спецыялістаў-даследчыкаў.**

НАСТУПНЫ этапны момант у развіцці беларускага нацыянальна-вызваленчага руху звязаны з узнікненнем Беларускай сацыялістычнай грамады.

Першымі гісторыкамі БСГ у 20-я гады выступілі яе актыўныя ў мінулым дзеячы і аднадумцы: Алесь Бурбіс, Зміцер Жылуновіч, Язэп Дыла, Антон Луцкевіч, Фёдар Турук і інш. Аўтары абапіраліся пераважна на свае ўспаміны, падмацоўваючы іх асобнымі дакументамі і матэрыяламі з асабістых архіваў. Адзначым, што без гэтых публікацый не можа абысціся і сучасны даследчык гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Аднак яны патрабуюць уважлівых крытычных адносін, бо ў іх сустракаюцца розныя недакладнасці і супярэчнасці, перабольшваецца размах дзейнасці БСГ і яго ўплыў на масы і сама яна ў той ці іншай ступені ідэалізуецца. Аналагічным чынам пісалася тады, дарэчы, і гісторыя Бунда. Разам з тым трэба адзначыць, што ў органе ЦК КПБ «Вперёд» відны дзеяч Кампартыі Літвы Алекса Ангарэціс у 1923 г. яўна пераменшваў ролю і значэнне БСГ, характарызуючы яе як арганізацыю ледзь не фіктыўную. Ацэнку Ангарэціса ў шматлікіх публікацыях прапагандаваў С. Агурскі.

У. Ігнатоўскі ў 20-я гады называў Грамаду «першай сацыялістычнай партыяй на Беларусі, стаўшай на мясцовы беларускі нацыянальны грунт і паставіўшай сабе за мэту развязаць беларускае нацыянальнае пытанне». Разам з тым ён справядліва адзначаў, што сацыялістычная частка праграмы БСГ няясная. Выданні Грамады, на яго погляд, «найчасцей абыходзяць сацыяльныя пытанні і абмяжоўваюцца палітычным зместам. Першае месца займае барацьба з рускім самаўладствам». У. Ігнатоўскі першы ў 20-я гады заўважыў і правільна ацаніў замену ў выданнях БСГ лозунга «Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!» на лозунг «Працавітая бедната ўсіх краёў, злучайся!» Гэта, як адзначыў даследчык, сведчыла аб тым, што БСГ «пачала глядзець на сябе хутчэй як на сялянскую, чым на пралетарскую арганізацыю». Легальная газета БСГ «Наша доля», паводле Ігнатоўскага, была «не класава-сацыялістычнай», а нацыянальна-дэмакратычнай». Зусім не ідэалізаваў Ігнатоўскі і «Нашу Ніву», якую характарызаваў як «ліберальную газету». «Наша Ніва», пісаў ён, «з класавым кірункам зусім парвала і стала на грунт адзінага нацыянальнага фронту». Разам з тым Ігнатоўскі падкрэсліў, што «Наша Ніва» вельмі часта «з ліберальнага грунту сыходзіла ў бок народніцкага дэмакратызму» (У. Ігнатоўскі, «Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX ст.» Мн., 1928, с. 207—218). З гэтым нельга не пагадзіцца і зараз.

**У 20-я і 30-я гады па пытаннях гісторыі БССР і КПБ нярэдка выказваліся кіраўнікі Кампартыі Беларусі. Так, першы сакратар ЦК КПБ А. Крыніцкі ў палітычнай справаздачы X з'езду КП(б)Б у студзені 1927 г. адзначыў, што «да Кастрычніцкай рэвалюцыі дробнабуржуазная інтэлігенцыя розных палітычных адценняў была гегемонам у пытаннях нацыянальнага руху ў Беларусі». «Большая частка гэтых груповак, — гаварыў ён, — абымалася БЕЛАРУСКАЙ сацыялістычнай грамадой, у якую ўваходзілі як элементы кадэцкага толка, так, галоўным чынам, эсэраўскія і народніцкія элементы. Да кастрычніка 1917 г. ў БСГ намецілася левае ядро работнікаў, частка якіх пазней увайшла ў камуністычную партыю».**

**У 1928 г. першы сакратар ЦК КПБ В. Кнорын, падкрэсліваючы непралетарскую сутнасць БСГ, адзначыў разам з тым, што «Грамада была сапраўды нацыянальна - рэвалюцыйнай» («Звязда», 1928, 19.04).**

**Аднак ужо ў 1929 — 1930 гг. па падказцы зверху пачала разгортвацца барацьба з так званымі «нацдэмамі». У снежні 1929 г. бюро ЦК і прэзідыум ЦКК КП(б)Б прынялі спецыяльную рэзалюцыю, ухваленую затым на студзеньскім (1930 г.) пленуме ЦК КП(б)Б, у якой старшыня ЦВК БССР А. Чарвякоў быў абвінавачаны ў ідэалізацыі «буржуазных нацыянальных дарэвалюцыйных партый Беларусі». Адначасова пад удар трапілі З. Жылуновіч, У. Ігнатоўскі. Як бачым, атака пачалася перш за ўсё на выдатнейшых прадстаўнікоў беларускай савецкай інтэлігенцыі, відных дзяржаўных і партыйных дзеячаў рэспублікі, у мінулым — актыўных удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху, людзей, якія стваралі БССР. Яны загінулі. Цудам засталіся жывымі Я. Купала і Я. Колас, але і на іх творчасці не маглі не адбіцца жудасныя гады масавых рэпрэсій. Боязь быць абвінавачаным у нацыяналізме, «нацдэмаўшчыне» паралізавала нацыянальныя пачуцці і свядомасць, творчы патэнцыял тых, хто ацалеў.**

**Разам з тым прымаліся меры, каб пазбавіць народ гістарычнай памяці. У «Тыповай праграме па гісторыі КП(б)Б», выдадзенай Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б у 1934 г., газета «Наша Ніва» характарызавалася як апалагет сталыпіншчыны. Далей гаварылася пра яе «здрадніцкую ролю», пра «здзелку «Нашай Нівы» з вялікадзяржаўнай рускай контррэвалюцыйнай буржуазіяй у барацьбе супраць рэвалюцыі» (с. 19—20).**

У ПЕРШЫЯ пасляваенныя гады ў грамадскай думцы рэспублікі адчувалася пэўнае ажыўленне. У часопісе «Беларусь» у 1945 — 1946 гг. былі апублікаваны артыкулы Ю. Пшыркова «Янка Купала—рэдактар «Нашай Нівы», М. Ларчанкі «Творчасць А. Гаруна», Л. Фіглоўскай пра Каруся Каганца і шмат іншых, у часопісе «Полымя» — артыкул У. Перцава пра К. Каліноўскага.

Неўзабаве, аднак, разгарнулася чарговая ідэалагічная кампанія ў духу 30-х гадоў — барацьба «з бязродным касмапалітызмам і нацыяналізмам». У «Полымі» № 2 за 1948 г. з'явіўся пагромны артыкул В. Барысенкі «Аб некаторых пытаннях гісторыі беларускай літаратуры», накіраваны супраць публікацый М. Ларчанкі, Ю. Пшыркова і інш. Яны абвінавачваліся ў тым, што не заўважалі праяў класавай барацьбы ў нашаніўскай літаратуры, за тое, што залічвалі А. Гаруна да «купалаўскага напрамку ў літаратуры», а ў цэлым — «у прапагандзе рэакцыйнай тэорыі адзінага патоку». У аснову тэарэтычна бездапаможных «Тэзісаў па асноўных пытаннях гісторыі беларускай літаратуры», складзеных В. Барысенкам і І. Гутаравым (1949 г.), былі пакладзены «гістарычныя ўказанні таварыша Сталіна», вядомыя пастановы ЦК ВКП(б) таго часу і выступленні Жданава аб часопісах «Звезда» і «Ленинград». «Наша Ніва» ацэньвалася аўтарамі як газета буржуазна-ліберальнага, нацыяналістычнага напрамку. Да буржуазна - нацыяналістычнай літаратуры была аднесена творчасць Ядвігіна Ш., А. Гаруна, Г. Леўчыка і іншых нашаніўцаў.

У «Тэзісах аб асноўных пытаннях гісторыі БССР», выдадзеных годам раней (аўтары М. Нікольскі, У. Перцаў, К. Шабуня, Н. Каменская і інш.), яшчэ адчуваўся подых гістарычнай праўды. БСГ характарызавалася як дробнабуржуазная нацыяналістычная арганізацыя, а яе газета «Наша доля» — як рэвалюцыйна-дэмакратычная.

Але ў 1954 г. пазіцыі аўтараў «Тэзісаў» істотна змяніліся. У першым томе «Гісторыі БССР» БСГ паказана як арганізацыя беларускіх буржуазных нацыяналістаў, якія выступалі супраць рэвалюцыі і «па сутнасці памагалі царызму ў яго палітыцы нацыянальнага прыгнечання», актыўна абаранялі памешчыцкую ўласнасць на зямлю і з'яўляліся злейшымі ворагамі працоўных мас сялянства (с. 362 — 363, 381). Да такіх абсурдных вывадаў не даходзілі нават у 30-я гады. Аўтары сцвярджалі, што і «Наша Ніва» падтрымлівала царызм, што ўдзел у газеце Цёткі, Купалы, Коласа на напрамак газеты не ўплываў (с. 464). У выніку атрымлівалася, што рэвалюцыянеры-дэмакраты супрацоўнічалі ў газеце, якая выступала ў падтрымку царызму, і самі служылі той жа мэце.

(Працяг на стар. 12).

## Кнігапіс




І. ПТАШНІКАЎ. Найдорф. Аповесці. Аўтарызаваны пераклад на рускую мову. Мінск, «Юнацтва», 1989.

**У серыю «Бібліятэка юнацтва» ўвайшлі два найбольш значныя творы Івана Пташнікава «Найдорф» і «Лонва», перакладзеныя на рускую мову В. Шчадрынай і М. Гарбачовым. За «Найдорф», як вядома, аўтару прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа. У творы праўдзіва адлюстравана ваеннае жыццё беларускай вёскі, першыя дні пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Шырокае кола праблем ахоплівае і «Лонва».**




С. ШУШКЕВІЧ. Вясёлыя дзяцікі. Вершы. На ўкраінскай мове. Для дашкольнага ўзросту. Кіеў, «Веселка», 1989.

**Тыражом 208 тысяч экзэмпляраў выйшла гэтая кніжка вершаў Станіслава Шушкевіча, адрасаваная самым маленькім. Творы на ўкраінскую мову пераклаў Абрам Кацнельсон. Дарэчы, гэта не першая сустрэча юных чытачоў братняй Украіны з творчасцю С. Шушкевіча. Яшчэ ў 1963 годзе ў Кіеве выдавалася яго кніжка «Лясная калыханка».**



А. КАМАРОЎСКІ. Заваропжаны мяч. Аповесць. Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1989.

**«Аповесць Алеся Камароўскага «Заваропжаны мяч» — першая ластаўка ў беларускай літаратуры на футбольную тэму... Як спецыяліст адзначу, што аўтар аповесці дасягнуў галоўнага, яскрава паказаў футбол: футбол — гэта штодзённая цяжкая праца і пошук на шляху павышэння майстэрства», — так піша ў прадмове да кнігі заслужаны майстар спорту СССР Э. Малафееў. Расказваючы пра жыццё футбольнай каманды, пісьменнік паказвае перш за ўсё, як у спартыўным паядынку выхоўваецца сумленнасць, вернасць любімай справе.**

# НЕ ПРЫМУШАЙЦЕ СКІДАЦЬ КАПЯЛЮШ

**Чытаючы апавяданні Адама ГЛОБУСА**

## Замест прадмовы

Вацлаў Ластоўскі на пачатку нашага стагоддзя напісаў:

**Формаў струпехлых я вораг дасконны,**
**Сцежак стаптаных не зношу ў тварэнні.**
**Новым памкненням даць новыя формы,**
**Новыя словы і дум выражэнне**
**Стаўлю я мэтай!**

Але жаданне стабільнасці і спакою найчасцей перамагае ў душы чалавека прагу да пошукаў і адкрыццяў. Ва ўсе часы за кожнае адхіленне ад стаптанае сцежкі рызыканту даводзілася дорага плаціць. Канец XX стагоддзя таксама не выключэнне. Прыхільнікі ўзносяць наватараў і авангардыстаў на недасягальную зямному веку вышыню, а супраціўнікі кідаюць у бездань, сцвярджаючы, што ўсё ў гісторыі было, што, патаптаўшыся на ўзбочыне, мастацтва заўжды вярталася ў традыцыйна-класічную, наезджаную каляіну.

Даказаць, што і першыя і другія маюць рацыю, — не цяжка. Але агульнапрызнанай аксіёме «факты — рэч упартая» пярэчыць крылатае выслоўе Бальзака «Няма нічога дурней за факт».

У 1957 годзе, у часы, з якіх бярэ адлік пакаленне «тутэйшых», адна паэтка ў сваім дзённіку запісала: «Ды не ўсё варта і ў дзённік заносіць: то вальнадумствам пацягне, то яшчэ чым...» Не дзіва, што народжаным пад зоркаю страху і перасцярогі няпроста мець шырыню мыслення, талерантнасць поглядаў, разумець, што могуць і павінны, прынамсі, у мастацтве, плённа суіснаваць шлях традыцыйны і наватарскі. А што казаць пра тых, якія нарадзіліся раней!? І ўсё ж менавіта ў застойныя, нялёгкія для нацыянальнай культуры гады, з'явіўся Алесь Разанаў, пра якога крытыка сказала, што «ён сам школа і сам напрамак». Ды не адзін Гаўрыла ў Полацку, як гаварылі калісьці нашыя продкі. І ўсё часцей і часцей то адзін, то другі непакорлівы творца за прыкладам А. Разанава спрабуе «новым памкненням даць новыя формы». Імкнецца да гэтага і Адам Глобус, аўтар паэтычнага зборніка «Парк» (1988) і кніжкі апавяданняў «Адзінота на стадыёне» («Мастацкая літаратура», 1989).

## Штрыхі да партрэта героя

Толькі сёння наша традыцыйна сялянская літаратура разбавілася крыху гарадской плынню. Дыскрымінацыя нацыянальнай мовы і культуры, якая цягнулася на працягу дзесяцігоддзяў, зашкодзіла гэтай натуральнай з'яве рэалізавацца ў належны час. У выніку сёння наша літаратура нагадвае калеку з непамерна развітым тулавам і ножкамі карліка. І таму гарадская плынь, якая знаходзіцца ў зародкавым стане, набыла ў нас не заўсёды апраўданае азначэнне наватарскай. Наватарства ж яе толькі ў адным выразна пакуль што засведчыла сябе — яна прывяла з сабой новага героя. У нейкай ступені гэтага героя характарызуюць радкі з Глобусавага верша «Да аўтапартрэта»:

**Я той, у кім заблыталіся страсці.**
**Хто хоча працай выратаваць хворых.**
**Хто не паспеў пакуль яшчэ упасці,**
**Той, хто змяшае разам радасць з горам.**

Канешне, калі падыходзіць з эстэтычнага пункту гледжання — гэта далёка не паэтычны шэдэўр. Але тут выяўлена істотнае адрозненне лірычнага героя «тутэйшых» ад герояў папярэдніх пакаленняў. У адрозненне ад ранейшага ідэальнага героя, які **ніколі не здольны ўпасці** новы яшчэ толькі **не паспеў гэтага зрабіць.** Гэта першы момант, другі — асяроддзе, у якім жыве герой, яно таксама іншае. Новы герой, ізноў па выказванню Глобуса,

**...там, дзе крышаць неба самалёты,**
**Дзе цягнікі руйнуюць рэшткі цішы,**
**Дзе чалавек пакутліва самотны,**
**І дзе не можа быць ніякі іншы.**

Пакутліва самотны герой, бадай, традыцыйны ў нашай літаратуры. Згадаем, да прыкладу, творчасць М. Гарэцкага ці М. Стральцова. Толькі гэтая пакутлівая самота героя тлумачылася ў розныя часы па-рознаму: то неадпаведнасцю яго больш тонкай душэўнай арганізацыі навакольнаму асяроддзю, то раздвоенасцю існавання «паміж сталіцай і мястэчкам». У герояў А. Глобуса адсутнічаюць як першая, так і другая прычыны. Па інтэлектуальным і духоўным узроўні яны сярэднія прадстаўнікі свайго асяроддзя. І ім не толькі «падабаецца мікрараён: жалезны дух у канструктыўным целе», але яны адчуваюць «сваю адпаведнасць класічнаму праспекту». Дзе ж тады вытокі гэтага пачуцця пакутлівай самоты, якое гэтак жа арганічна ўвайшло ў іх жыццё, як і ў жыццё выкінутых на бераг рыбін — гарадскіх вяскоўцаў?

Герой А. Глобуса — мастак. І не толькі таму, што ў большасці апавяданняў («Заказ», «Капялюш пажарнага колеру», «Паміж папярэднім і наступным», «На фоне барака» і інш.) гэта яго прафесія. Ён мастак па прызванні душы. Гэта чалавек, які не толькі хоча нешта ствараць. але і свядома жадае вылучыцца з масы, стаць асобай.

**Сярод названых**
**і вядомых нам планет**
**шукаем новых,**
**каб паспець назваць сябе**
**на белай пляме карты.**

Так напісаў А. Глобус у паэтычным зборніку «Парк». І сапраўды яго герой хоча найперш ствараць самога сябе. Ён не хоча быць «карлікам на абцасах», якога, калі не бачыш, а чуеш хаду, уяўляеш веліканам. Не хоча гэты герой і быць у чарзе ні чацвёртым, ні трэцім, ні нават другім, яму патрэбна толькі першае месца. А першае месца часцей за ўсё занятае. І не заўсёды тым, хто лепшы ці разумнейшы. Герою ж застаецца за знешняю бравадай і позай схаваць свой смутак і расчараванне. Што ён, зрэшты. і робіць. Да прыкладу, надзеўшы шыкоўны капялюш пажарнага колеру, дражніць сонную млявасць абывацельскага побыту. Аднак занадта мала ў яго душэўных сіл, каб да канца супрацьстаяць асяроддзю, да канца заставацца самім сабой. І таму аблаяны і абражаны герой-мастак скідае свой капялюш, забівае ў сабе мастака, асобу і робіцца, як усе. Прынамсі, знешне. Здаўшыся на міласць пераможцаў, ён сумленна выконвае іхнія заказы, ад якіх адна карысць — добрыя грошы («Заказ»).

Часам ён працуе не толькі дзеля грошай. «Працаваць у яго атрымліваецца. Ён здатны рабіць і лепш, і больш, але не вытрымае фонд зарплаты, і ў планавым аддзеле зляцяць прэміі, таму робіцца столькі, колькі трэба...» («Аголеная ў тралейбусе»). Аднак ні Чэсь, герой гэтага апавядання, ні Вадзім, са згаданага вышэй «Заказу», не маюць радасці ад свае працы. Першы робіць прыгожыя краты, другі замест жаданага крэматорыя атрымлівае заказ эформіць... цырк. З'едлівая ўсмешка будзённасці... Трагедыя ці фарс з жыцця «маленькага» чалавека? Відаць, усё залежыць ад канкрэтных абставін.

## Да характарыстыкі абставін

Герой А. Глобуса, сучаснік і равеснік аўтара, прадстаўнік пакалення ў нейкім сэнсе загубленага, народжанага паміж дзвюма адлігамі, у бясчассе. Менавіта тады найбольшага свайго апагею дасягнула «гіганцкая інсцэніроўка, тэатральнае відовішча нябачанага маштабу», дзе галоўную ролю выконвала пудзіла мёртвай свабоды. (В. Гросман). І на агромністым стадыёне нашага жыцця, дзе адбывалася гэтае відовішча, кожны з мільёнаў гледачоў адчуваў сябе адзінокім і бездапаможным. як на хаўтурах. Тыя, што нарадзіліся раней, яшчэ памяталі часы, калі свабода, справядлівасць і праўда падавалі прыкметы жыцця. Пакаленню ж «тутэйшых» быў наканаваны час мерцвякоў, якіх кашчунна і цынічна прымушалі лічыць за жывых. Не дзіўна, што такое становішча выклікала пратэст. Часам нават неўсвядомлены і скіраваны зусім у іншы, чым трэба, бок.

Герой А. Глобуса не прымае той «сістэмы», якая ўвайшла ў адносіны, жыццё і побыт сучасніка. Аднак непрыняцце гэтае досыць дэкларатыўнае і сацыяльна-палітычнымі прычынамі не тлумачыцца. Вось маналог галоўнага героя апавядання «Сістэма»: «Не магу я, Швед, не магу ў іхняй сістэме жыць, па паркету хадзіць, на цэментовыя твары глядзець. Лепш у падвале па цэменце хадзіць ды на людзей глядзець. Пяць год я на жываце поўз. Ведаеш, я ж пад інтэлектуала касіў... А больш не магу, бо яны не б'юць, яны плююць у душу... Усё робіцца толькі за спіною. У вочы толькі добрыя словы, а за спіною бруд». У выніку і пратэст герояў супраць гэтай сістэмы хутчэй маральны, чым сацыяльны. І, апрача таго, у нейкай ступені падлеткавы. Так, нягледзячы на ўзрост (а героям А. Глобуса часцей за ўсё 30, а то і больш) — яны выяўляюць псіхалогію падлеткаў. Растлумачыць сацыяльную інфантыльнасць пакалення, народжанага застоем, — абавязак псіхолагаў і сацыёлагаў. У апавяданнях жа А. Глобуса пераканаўча, на маю думку, адлюстраваны сам тып свядома адлучанага ад сацыяльна-грамадскага жыцця, зняверанага ў магчымасці якіх-небудзь пазітыўных змен, вечна маладога (да пенсійнага ўзросту) нашага сучасніка.

Пратэст трыццацігадовага пераростка скіраваны ў першую чаргу супраць пакалення старэйшых. Адмаўляецца іхняя мараль, звычкі, эстэтычныя і этычныя каштоўнасці. У падвалах ці бункерах, як іх называюць Бэры, Шведы і іншыя, ствараецца свая «сістэма», жорсткая, але ў нечым і прымітыўна справядлівая, са сваімі маральнымі законамі і нормамі («Сістэма»). У другіх герояў так далёка пратэст не заходзіць: яны дражняць добрапрыстойную публіку рознакаляровымі шкарпэткамі («Хто з нас не хацеў навучыцца ездзіць на ровары без рук?»), каб зняць нервовае напружанне, б'юць посуд ва ўласнай хаце («Аголеная ў тралейбусе») і г. д. Аднак гэтае імкненне стварыць свой уласны свет, недасягальны для асяроддзя, так і застаецца нерэалізаваным. Часамі героям удаецца «ўзняцца над тлумам» і «быць вышэй», як уладкаванаму і забяспечанаму Чэсю, які, здаецца, найбольш адаптаваўся ў свеце «дарослых». Аднак, калі яму захацелася ўзняцца яшчэ вышэй, ён, дакрануўшыся да столі, пад тонкім пластом крэйды адчуў непрабіваемы бетон. І «... апусціўся долу на тое самае месца з якога ўзлятаў, і назаўсёды... страціў, знішчыў сваю здольнасць уздымацца...»

Безумоўна, не А. Глобусу належыць прыярытэт у выяўленні трагедыйнасці быцця сучаснага чалавека. Трагедыйнасці, абумоўленай прычынамі сацыяльнымі. Спроба адлюстраваць гэты трагізм будзённасці назіраецца ў творах В. Гігевіча. Цьмяная і, здаецца, на першы погляд, беспадстаўная незадаволенасць яго герояў сваім жыццём штурхае іх на нечаканыя ўчынкі, змушае да пастаяннай рэфлексіі. У аповесці «Пярэварацень» герой нават скончыць жыццё самагубствам. Аднак вялікая загана гэтых твораў у тым, што тут занадта многае не дагаворваецца, рэчы не называюцца сваімі імёнамі. Прычыны душэўнай драмы герояў В. Гігевіча не ў адарванасці ад звыклага вясковага асяроддзя, высокая мараль якога супрацьпастаўляецца прагматычнаму і бездухоўнаму ў асноўным гарадскому побыту. У век НТР мільёны людзей мігруюць з вёскі ў горад, але ні ў адной літаратуры туга па вясковых краявідах не дасягае такіх памераў, як у нас. Можна было б абвінаваціць нашых пісьменнікаў у прадузятасці, калі б жыццё не пацвярджала гэтай тэндэнцыі... І не дзіва — паміж горадам і вёскай у нас пралягае бездань. У бытавой паўсядзённай свядомасці зрусіфікаванага горада вёска, якая захоўвае нацыянальныя традыцыі, — рэзервацыя, дзе жывуць ніжэйшыя па інтэлектуальным і духоўным ўзроўні асобы, плебеі, якія не толькі паводзіць сябе, але і гаварыць па-культурнаму (значыць па-руску) не ўмеюць. Вясковец, трапіўшы на гарадскі брук, каб далучыцца да асяроддзя «патрыцыяў», павінен адмовіцца не толькі ад вясковых звычак і норм маралі, але і ад свайго імя (замест Баляслава стаць Барысам, замест Марысі Машай і г. д.), пазбавіцца свайго вясковага (беларускага) акцэнту ў вымаўленні... Але нават і пасля таго, як ён цалкам вырачыцца свайго «я», для мяшчан ён застанецца істотай ніжэйшага гатунку... «колхозником», «деревней» і г. д. Ананімная паэма «Як мяне адвадзжвалі ад «Талакі», куды больш раскажа будучым пакаленням пра гэтую трагедыю сучаснага беларуса, чым усе разам узятыя творы сучаснай літаратуры, сусветную беспрычынную тугу якіх без спецыяльных гістарычных каментарыяў ніхто не будзе ў стане зразумець...

Героям А. Глобуса няма падстаў рабіцца нацыянальнымі «пярэваратнямі», яны такія ёсць ад нараджэння, па праву гарадскога паходжання... Аднак жыццёвага, рэальнага абгрунтавання іхняй «сусветнай тугі» ў творах маладога літаратара няма.

## Будзем добразычлівыя...

Здольны празаік, але...

Занадта захапляецца чыста знешнімі эфектамі. Занадта імкнецца спадабацца масаваму чытачу пры дапамозе знешніх, танных прыёмаў. Чаго вартая, да прыкладу, прэтэнцыёзная назва «Аголеная ў тралейбусе»? Ці паўднёвая экзотыка ў апавяданні «Паміж папярэднім і наступным», дзе рэфлексіі расчараванага героя суправаджаюцца гаданнем даўно вымерлага папугая ара, курортным (вядома ж, нязвыклым) раманам і высcанымі з пальца філасофскімі развагамі пра сэнс чалавечага існавання. У гэтым экзатычным свеце і звыклыя прадметы набываюць нязвыклыя якасці: сонца робіцца «флуарэсцэнтным», каляровыя фотаздымкі «анілінавымі», а жанчыны «свецяцца сонечнасцю»...

А. Глобус выбраў няпростую манеру апавядаць: мінімум каментарыяў і тлумачэнняў аўтара і максімум самавыяўлення герояў ва ўчынках, паводзінах і дыялогах. Аўтар павінен быць і вялікім псіхолагам і густоўным мастаком, каб адабраць найбольш характэрныя факты, словы, выказванні, якія здольны многае гаварыць у падтэксце. Не дзіва, што далёка не заўсёды гэта яму ўдаецца. Часам адбываецца «слізганне па паверхні», сцвярджэнне аўтарскай ідэі «ў лоб». Маю на ўвазе апавяданне «Дарма», дзе праз дыялог двух пенсіянераў, былых калег па працы, адзін з якіх калісьці «выжыў» з месца другога, праводзіцца славутая багдановічаўская думка: «І навошта спяшаліся так, напружаючы ўсе свае сілы, калі ціха паўзучы чарвяк усё ж дагнаў нас ля самай магілы». У тым жа шэрагу і апавяданне «Вентылятар», дзе робіцца спроба выявіць жыццёвую філасофію прадстаўнікоў трох розных пакаленняў — бацькі, сына і ўнука.

Варта адзначыць, што А. Глобусу няблага ўдаецца і традыцыйная для нашай літаратуры роля апавядальніка. Згадаем апавяданне «Койданава», дзе ідзе паэтызацыя асветленага дзіцячымі ўспамінамі мястэчковага побыту. Вобразы койданаўскіх мястэчкоўцаў пасапраўднаму каларытныя і запамінальныя. Эпізоды з іх жыцця падаюцца са шчырай замілаванасцю і добразычлівым аўтарскім гумарам.

Карацей, Глобус сцвердзіў той факт, што можа ён пісаць творы і ў традыцыйным стылі. Можа, аднак не піша. І, думаецца, не толькі з-за аднае ўпарціцтва свайму пакаленню ўпарцасці. Відаць, празаіка ў нечым не задавальняе той шлях, якім ідзе сёння наша літаратура. Зрэшты, не аднаго яго... Нязвыкла пачыналі свой шлях многія. Згадаем, напрыклад, А. Наўроцкага. Лёс Наўроцкага, які быў вызначаны многімі аб'ектыўнымі і суб'ектыўнымі момантамі, не дазволіў раскрыцца ягонаму таленту. І гэты лёс у многім, думаецца, павінен стаць перасцярогай для шчырых прыхільнікаў роднай культуры. Не трэба перашкаджаць чалавеку ісці тым шляхам, які ён выбірае для сябе сам.

Будзем жа добразычлівыя і талерантныя ў дачыненні да творцаў. У тым ліку і да А. Глобуса. Не будзем змушаць літаратара здымаць ягоны, у многім нязвыклы для нас, капялюш пажарнага колеру, калі самому А. Глобусу ў ім добра. Не будзем пры адным толькі з'яўленні гэтага капелюша раздражняцца і абражаць мастака, пастараемся зразумець, чаму і навошта ён гэты нязвыклы ўбор носіць.

**Галіна ТЫЧКА.**

***Віншуем!***



# КАБ РАСТАВАЎ ЛЁД

**Алесю АСІПЕНКУ — 70**

ДА РАМАНАЎ «Непрыкаяны маладзік», «Святыя грэшнікі», іншых буйных твораў Алесь Асіпенка прыйшоў, маючы багаты жыццёвы і творчы вопыт. Перад вайною ён вучыўся на гістарычным факультэце Віцебскага педінстытута, настаўнічаў, пайшоў у партызаны, неўзабаве стаў памочнікам камісара па камсамолу аднаго з атрадаў. Гітлераўцы спалілі яго хату; маці і сёстры, ратуючыся ад расстрэлу, хаваліся ў чужых людзей. Асабліва далася ў знакі зіма 1942 года. Пачалася блакада, шматлікія атакі карнікаў. У час аднаго з баёў А. Асіпенка правёў у халоднай, змешанай са снегам балотнай вадзе, некалькі гадзін. Здароўем і дагэтуль пахваліцца не мог, а тут — адкрыліся ранейшыя раны.

Апынуўся за лініяй фронту, лячыўся ў шпіталі, вучыўся ў дыверсійнай школе, на партыйна - савецкіх курсах. У партызанскім доме адпачынку пазнаёміўся з Кузьмой Чорным. Асмеліўся, паказаў любімаму пісьменніку сёе-тое з напісанага. Мікалай Карлавіч уважліва прабег тэкст, сказаў словы, якія тады акрылілі, а потым запомніліся на ўсё жыццё, — «Не кідайце гэтае працы». Лёгка сказаць — не кідайце, калі працягвалася вайна, былі іншыя турботы і клопаты, далёкія ад літаратурных.

У 1943 годзе А. Асіпенку накіравалі на камсамольскую работу ў толькі што вызваленую ад нямецка - фашысцкіх захопнікаў Магілёўшчыну, быў першым сакратаром Краснапольскага райкома камсамола. Надоўга звязаў лёс з моладдзю. Праз год пачаў працаваць у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», прайшоў шлях ад карэспандэнта да рэдактара газеты. У 1953 годзе быў створаны новы літаратурна - мастацкі і грамадска - палітычны часопіс «Маладосць», і А. Асіпенка перайшоў на працу ў яго рэдакцыю. Быў загадчыкам аддзела, адказным сакратаром, намеснікам галоўнага рэдактара, галоўным рэдактарам. Пазней слова «галоўны» яшчэ двойчы фігуравала ў яго біяграфіі. Працаваў галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм», а з 1976 года да выхаду на пенсію — галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Першае апавяданне А. Асіпенка надрукаваў у 1945 годзе, але сталай літаратурнай працай займаецца з 1953-га. Неабходна было навёрстваць адабранае вайной. Запознена выступіў і з першай кнігай «Лёд растае» — спазнілася трыццаць дзевяць... Затое дэбют атрымаўся ўпэўненым, адчувалася добрае веданне жыцця, уменне са шматлікіх жыццёвых сітуацый і калізій адбіраць найбольш важнае, тыповае. А. Асіпенка ў пачаткоўцах не хадзіў. Наступныя зборнікі — «Подых кветак і працы», «Дарога ў даль» пацвердзілі, што ў літаратуру прыйшоў аўтар са сваім мастакоўскім поглядам, надзвычай чуйны да сучаснасці.

**Першым значным набыткам А. Асіпенкі стала аповесць «Абжыты кут». Як і ў ранейшых яго творах, у ёй, здавалася б, сітуацыя лакальная, традыцыйная. Расказваецца, як учарашні выпускнік сярэдняй школы Янка Сітоў, не прыжыўшыся ў горадзе, вяртаецца ў вёску. Аднак пісьменніку ўдалося перадаць усю шматграннасць жыцця, з аднолькавым майстэрствам паказаць і тыя здаровыя сілы, што здольны рухаць вёску наперад, і ценявыя моманты, калі яшчэ адчувальны быў уплыў прыстасаванцаў розных масцей, хто не супраць пагрэць рукі ля народнага дабра. Каларытна, аб'ёмна выпісаў А. Асіпенка і свайго галоўнага героя, і тых, з кім яму давялося ўступіць у барацьбу, — брыгадзіра Цопу, учотчыка Сцяпана Макуху, старшыню калгаса Чукрая і іншых.**

**Высока ацаніў аповесць «Абжыты кут» В. Быкаў. На старонках часопіса «Полымя» (№ 7, 1964, «Таленавітая аповесць») ён пісаў: «Дагэтуль мы не мелі на нашай беларускай паліцы такіх твораў аб нашай самай надзённай сучаснасці, дзе б з гэткай праўдзівасцю, тактам, з гэткай сардэчнасцю і веданнем справы быў узняты цэлы пласт сучаснага вясковага жыцця са шматлікімі яго радасцямі, засмучэннямі і клопатамі. Толькі чалавеку, якому да болю блізкая сучасная вёска, які ездзіць туды не госцем і не з камандзіроўкай у кішэні, а вырас там і цяпер жыве яе клопатамі, могуць з такой паўнатой і багаццем душэўных праяў адкрыцца разнастайныя характары, у тым ліку і такія, якіх не было ў ёй да вайны і якія ўзнікаюць толькі цяпер, у 60-я гады».**

Памяць аб перажытым у гады вайны падказала задуму рамана «Вогненны азімут», у якім пісьменнік расказаў аб першых месяцах барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Хоць, па праўдзе кажучы, барацьбы гэтай па сутнасці і не відаць. Робіцца толькі подступы да змагання з ворагам. У тыле засталася група актывістаў раёна. Цяжкія гэтыя першыя крокі ў новых абставінах, калі тое, пра што раней гаварылася як пра непазбежнае, адбываецца на самай справе. Гіне кіраўнік групы Галай, трапляе ў палон і толькі цудам уратоўвацца Тышкевіч, які бярэ ўсю арганізатарскую работу на сябе. Не даюць жаданых вынікаў намаганні Прусавай па стварэнню падпольнай групы ў горадзе...

Як слушна заўважыў Н. Пашкевіч, «імкнучыся з найбольшай выразнасцю перадаць драматычную праўду сорак першага года, Асіпенка бярэ звычайна самыя цяжкія і бязлітасныя варыянты чалавечага лёсу, якія ўзнікаюць ці то як непазбежны вынік фашыцкага разгулу, ці то з прычыны нявопытнасці і неасцярожнасці некаторых герояў рамана. Не абышлося, праўда, часам і без нагрувашчвання драматычных сітуацый, ды толькі ў цэлым «Вогненны азімут» — суровая, драматычная і трагічная праўда аб вайне, убачанай і перажытай самім аўтарам.

Пачынаючы з першых твораў, прынамсі, з аповесці «Апошняя версія», якая ўвайшла ў зборнік «Лёд растае», А. Асіпенка не адмаўляецца ад вострых сітуацый, якія нясуць у сабе і дэтэктыўны пачатак. Аднак незвычайныя прыгоды для пісьменніка не самамэта, а толькі магчымасць яшчэ больш псіхалагічна-заглыблена раскрыць характары, бо, гэта не сакрэт, у выключных сітуацыях чалавек яшчэ больш пазнаецца як асоба. Падобнае бачыцца і ў аповесці «Жыта», герой якой колішні франтавік Язэп Каліна дзейнічае ўжо на мірным фронце. Яму, сяржанту-інваліду, да вяртання ў родныя мясціны здавалася, што ўсе цяжкасці пераадолены ўжо. Аказваецца, аб перамозе гаварыць рана.

Удаўся не толькі вобраз Каліны, але іншыя персанажы. Пісьменнік адным з першых па-новаму глянуў на сучаснага бюракрата. Да гэтай непатапляльнай кагорты належыць і сакратар райкома партыі Гаравы. Аб метадах работы падобнага кіраўніка з людзьмі яскрава сведчаць словы, якія кідае ён на заўвагу Язэпа Каліны: «Райком, таварыш Каліна, не дом, дзе можна прыйсці, разваліцца, зубаскаліць або яшчэ што рабіць, — гэта штаб. І трэба весці сябе як у штабе». Са «штабістамі» — вялікімі і малымі — і змагаецца Язэп Каліна, адстойваючы свае разуменне праўды і справядлівасці.

Адчувальныя дэтэктыўныя элементы ў аповесці «Два дні і дзве ночы», ды і на гэты раз не яны вызначаюць вартасці твора, а ўменне пісьменніка па-новаму глянуць на падзеі мінулай вайны. Эпіграфам да твора можна паставіць словы аднаго з яго герояў югаслава Драгавіча: «Пакуль мы жывыя, пакуль дыхаем і думаем, мы будзем выкрываць фашызм як самую цынічную і подлую філасофію на права забіваць сабе падобных... У тым і ёсць гуманізм, што мы не можам забыць вайну». У прыгонніцкім плане напісана адрасаваная школьнікам, аповесць «Пяцёрка адважных». А. Асіпенка ставіць юных герояў у выключныя сітуацыі для таго, каб лепш паказаць іх самаадданасць, гераізм у барацьбе з ворагам, гатоўнасць на ўсё, калі таго патрабуе абавязак перад Радзімай.

**Ёсць у А. Асіпенкі два творы, якія, хоць і з'явіліся яны ў розныя гады, хочацца паставіць побач — аповесці «Канец бабінага лета» і «Рэха даўніх надзей». Галоўныя героі ў іх — жанчыны, што з'яўляюцца самім увасабленнем сумленнасці, трываласці народнай маралі. Знакамітая даярка Марыя Дабрэня (само прозвішча яе набывае глыбокі сэнс), якая любіць сваю працу, становіцца па сутнасці без віны вінаватай. Калі пабудавалі ў вёсцы буйны жывёлагадоўчы комплекс, вызваліліся рабочыя рукі. Вядома ж, перавагу аддалі Марыі Дабрэні, але ж у звольненай Алены Ліпскай — пяцёра дзяцей, муж інвалід.**

**Аповесць, прысвечаная надзённым тады праблемам урбанізацыі вёскі, хораша загучала і ў маральна - этычным плане. Як добры знаўца жыцця А. Асіпенка асноўны позірк скіраваў на этычныя аспекты, паспрабаваўшы па-свойму разабрацца, што дае гэта вёсцы, а ў чым яна страчвае. Публіцыстычныя матывы не толькі не паслабілі пафас твора, а, наадварот, узмацнілі яго.**

У перавыданні звычайна А. Асіпенка не ўключае апавяданне «Лёд растае». Магчыма, пісьменнік і мае рацыю, самому, як кажуць, відней. Тым больш, што на яго мастакоўскім рахунку не адзін дзесятак твораў «малога жанру». І ўсё ж апавяданне «Лёд растае», напісанае яшчэ ў 1953 годзе, хоць і з'яўляецца адным з найбольш ранніх у біяграфіі аўтара, заслугоўвае ўвагі, бо ў ім, як мне здаецца, схоплена тое галоўнае, што пазней стала ў творчасці пісьменніка важным і вызначальным.

«Малады ўрач Рыбкаўскага медпункта Тоня Аганькова, хударлявая дзяўчына з светлымі і карымі даверлівымі вачыма», нядаўняя выпускніца Пірагоўскага медінстытута, якая родам з Замаскварэчча, адчувае сябе ў глушы, куды прыехала па размеркаванні, чужой. Больш таго, «вырасла сцяна непрыязні паміж маладым урачом і моладдзю», паколькі Тоня лічыць сябе куды лепшай, чым вяскоўцы. Цяжка сказаць, як у далейшым склалася б жыццё дзяўчыны, калі б не выпадак, які надарыўся ў «першую суботу красавіка». Тоня даведалася, што маладая парадзіха знаходзіцца пры смерці і толькі яна, урач, можа ўратаваць ёй жыццё. Але ж вёска — па другі бок ракі, а тут сама ледаход пачаўся, вецер сібернічае. З цяжкасцю, але дзяўчына перапраўляецца праз раку, прыходзіць на дапамогу парадзісе.

У назве твора значны падтэкст. Лёд растае на сонцы... Людскія ж усмешкі, спагада, узаемаразуменне — ці не тое самае сонца, што запальвае свае промні, каб лучыць іх, робячы людзей дабрэйшымі і шчадрэйшымі. Гэтай сонечнай цеплыні вельмі шмат у творах А. Асіпенкі. Яны напоўнены агульначалавечымі матывамі ў ёй.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

## Культура роднага слова

**У кнігарнях з'явілася новая праца доктара філалагічных навук прафесара І. Я. Лепешава «Асновы культуры мовы і стылістыкі» (Мн., «Універсітэцкае», 1989). І няхай не адштурхоўвае чытача яе падзагаловак—практыкум. Такія практыкумы сёння патрэбны кожнаму: і студэнту-філолагу, і настаўніку-славесніку, і пісьменніку-пачаткоўцу, усім, хто неабыякавы да лёсу роднай мовы.**

**У прадмове сціпла адзначана, што змешчаныя ў кнізе сказы з «адмоўным матэрыялам» сабраны за апошнія дзесяць гадоў. Хто займаецца даследаваннямі такога характару, той ведае, што значыць сабраць матэрыял для кнігі па культуры мовы (маўлення): ён не ляжыць на паверхні, яго трэба вышукваць, валодаючы высокай лінгвістычнай падрыхтоўкай. У спісе скарачэнняў значацца імёны 149 пісьменнікаў і паэтаў розных пакаленняў. Ужо гэтая акалічнасць настройвае чытача на добры лад: значыць, матэрыял багаты, дастатковы для таго, каб рабіць правільныя высновы, дае магчымасць паразважаць, нават паспрачацца (у многіх выпадках вучоны свядома «правакуе» дыскусію).**

**У кнізе сем раздзелаў, прысвечаных аналізу камунікатыўных якасцей маўлення. Тут фактычна ўпершыню ў нашым мовазнаўстве падаецца сістэма норм, якія забяспечваюць правільнасць маўлення. Аўтар засяродзіў увагу на тых участках, «якія патрабуюць падтрымкі і аховы», г. зн. на аслабленых. Не заўсёды правільна мы вымаўляем спалучэнні зычных, не заўсёды ведаем, з якім націскам ужыць слова, часта выкарыстоўваем яго з адступленнем ад правілаў сучаснага словаўтварэння і г. д.**

**Зрэшты, пра гэта не адзін раз пісалася і ў «Літаратуры і мастацтве», а ўсё ж памылкі пераходзяць з кніг у кнігі, бяруцца чытачамі на ўзбраенне. Гэта выкарыстоўваюць некаторыя даследчыкі і сцвярджаюць: калі, маўляў, з'ява паўтараецца, то значыць яна мае права на існаванне ў літаратурным ужытку... Член-карэспандэнт АН СССР Ф. П. Філін у свой час правільна прыкмеціў, што памылковае ў мове можа быць вельмі ўчэпістым, як пустазелле. Кніга І. Лепешава змяшчае шмат падобных прыкладаў, узятых з друкаваных крыніц. Вось чаму думаецца, што яна—не толькі для студэнтаў.**

**Т. ТАМАШЭВІЧ,**
**дацэнт Гродзенскага універсітэта імя Я. Купалы.**

так: здаецца, надышоў час, калі можна не саромецца, што ты адукаваны, не хаваць на ўсякі выпадак інтэлект... Але ён ніколі і не іграе функцыю, з'яву, напрыклад, «герастратызм» — жаданне любой цаной, няхай нават злачынствам, сцвердзіць сябе. Ён ідзе ад дэталі: чалавек жадае ўладкавацца ў жыцці, прагне замацавацца ў ім любым чынам; найкарацейшым шляхам да гэтага аказваецца злачынства, і калі ў цябе няма маральных забарон, як гаворыцца, бога ў душы, то ты станеш на гэты шлях і хуценька па ім пабяжыш. А шлях гэта такі, на якім гінуць і людзі, і дзяржавы. Але на гэта напляваць — каб толькі было ўтульна, улежна ды ўежна — табе, каб паўсюдна пелі славу — табе...

Вось і яшчэ адзін з гэтай кампаніі, Тата ў «Зацюканым апостале» (пастаноўка Барыса Луцэнкі), гандлюе сумленнем: вытлумачвае кожнае злачынства на карысць таму, хто яму плаціць, хто абяцае бязбеднае жыццё і захаванне маленькіх жыццёвых выгод...

Дакараючы — і не без падстаў — купалаўскі тэатр за невыразную рэпертуарную лінію, мы ўсё ж, відаць, не заўсёды бачым, што ёсць у ёй свая, невыпадковая, логіка: яна заключана ў паслядоўнай забароне самых неабходных, самых першасных чалавечых каштоўнасцей. Мілаванаў — з тых купалаўцаў, чые работы не толькі этап іх уласных біяграфій, але яшчэ і сімвал веры тэатра. Гэлі Гэй, Тата, Герастрат, Міхай Груя («Святая святых» Іона Друцэ), Гаспадар у Макаёнкавай «Святой прастаце», Проспера ў шэкспіраўскай «Буры» (усе — у пастаноўцы В. Раеўскага) у гэтых работах ён выяўлены Аўгустам Мілаванавым усімі даступнымі яму спосабамі. А даступна яму вельмі многае. Пры знешняй сціпласці, нейкай дэманстратыўнай «неартыстычнасці» аблічча ён знаходзіць вельмі трапныя рысы, каб выявіць самую сутнасць чалавека, героя ці «антыгероя». Плаўны жэст рукі Гэлі Гэя, якім ён намаляваў памеры і рух рыбіны, — гэта ж той ідылічны час, калі яшчэ ён выбіраў! Лёгкая, амаль з прытанцоўваннем, хада Таты, яго ўлюбёнасць у сябе, у сваё адзенне, вусікі, бліскучыя чаравікі, лёгкая цынічная ўсмешка, якая памагае адгарадзіцца ад усіх жыццёвых навальніц... Важкая хада Міхая Груі, пачуццё ўласнай годнасці, адчуванне за спіною ўсёй моцы дзяржавы... Вёрткая постаць Герастрата, інтанацыі дробнага спекулянта, ці «напарстачніка», зазывалы, які расхвальвае свой тавар... Маленькая скамеечка з падпілаванымі ножкамі, на якой сядзіць Следчы («Надзея Путніна, яе час, яе спадарожнікі» Ігара Малеева, рэжысёр В. Раеўскі), упіраючыся падбародкам у стол, вочкі-бураўчыкі, з'едлівая ўсмешачка... Мілаванаў умее апраўдаць нечаканую мізансцэну, чым больш рэзкую—тым лепш.

Карцінная галерэя багатая і разнастайная, яна падсоўвае аднаго за адным твары, постаці, інтанацыі... Асобы... І вось што важна: артыст рашуча адмаўляецца ад знешняй характарнасці, якую ўмее і любіць вышукваць, калі задума спектакля патрабуе строгасці і сціпласці — і тады «іграюць» менавіта строгасць і сціпласць. Зразумела, першае слова ў гэтым — рэжысёра. Луцэнка, Агамірзян, Раеўскі, Эрын вызначаюць увесь строй і пракладаюць курс спектакля. Але Мілаванаў здольны і дапамагчы, і запярэчыць, і пераканаць рэжысёра, бо ён жыве не толькі сваім героем, а ўсім цэласным вобразам спектакля, яго месцам у шэрагу іншых работ свайго тэатра і ў кантэксце часу.

Яго Проспера ў «Буры» — таксама рэжысёр — рэжысёр падзей на сцэне, на сваім востраве, рэжысёр... усіх шэкспіраўскіх п'ес, увабраных гэтым апошнім творам драматурга. І праз крыўду, пратэст, нагарду, адплату, помсту ён уздымаецца да агульначалавечага, касмічнага спасціжэння еднасці людзей, унікальнасці чалавечага жыцця.

Артысту не дапамагае ў «Буры» ні касцюм, ні грым — толькі думка. Лоб перакрэслівае пакутлівая рыска; вочы — поўныя тугі і знойдзенага ў гэты момант разумення; цяжка нараджаюцца словы: не па натхненні — выпакутаваныя, словы, у якіх зліліся боль і хваляванне вялікага Шэкспіра, героя спектакля, артыста—выканаўцы ролі Проспера, нашыя агульныя боль і хваляванне за розум і жыццё на Зямлі...

Можна ізноў нагадаць «вышэйшую рэжысуру», якая быццам правяла Мілаванава праз некалькі работ у спектаклях апошніх гадоў, што па розных прычынах не затрымаліся ў рэпертуары. Ролі ў «Тарцюфе», «Дзецях сонца» — не толькі падстава для роздуму, школа артыста (якой Мілаванаў, нягледзячы на вопытнасць, ніколі не цураецца), — гэта і ступені ўнутранага акцёрскага жыцця (не бяруся гэта сцвярджаць пра «Мудрамера», і адзначанага, і ўвянчанага лаўрамі, бо ён, на мой погляд, — звычайная фіксацыя ўжо знойдзенага).

Перадуманае, перажытае, усвядомленае патрабавала выйсця на свет божы — і выйшла ў абліччы немаладога, незаўважанага светам Тэўе-малочніка, філосафа з вёскі Анатаўкі, з яго жонкай, пяццю дачкамі, дзвюма каровамі, старой кабылай, з яго звычкай звяртацца да Свяшчэннага пісання, быццам да прымаўкі, да Бога — як да разумнага суседа; з яго хітраватай сарамлівай усмешкай (як тут не прыгадаць усмешку малога Зурыкелы!). З яго танцам у карчме, дзе болей слёз, чымся радасці, больш сораму, чым лікавання.. З яго ціхай годнасцю, добрай спагадай, з каменнай упартасцю («на тым стаю і не магу іначай») і шалёным болем, калі ён адрыне ад сябе дачку. З яго мудрасцю і цвярозасцю — і невычэрпнай надзеяй на невынішчальнасць жыцця.

Усё гэта выйшла на свет — праз купалаўскую сцэну — у спектаклі «Памінальная малітва» (п'еса Р. Горына паводле твораў Шолам-Алейхема, пастаўленая Барысам Эрыным пад заслону мінулага сезона). Роля Тэўе ўвабрала ў сябе многае, чым на сённяшні дзень валодае артыст, і больш за ўсё — не пабаюся напышлівасці — яго роздум пра час і вечнасць.

...Мілаванаў стаў народным артыстам. Што змянілася ў яго жыцці? Што зменіцца? Пачне апранацца так, каб было відаць: вось ідзе народны?! Калі я ўчора сустрэла яго—у джынсах, шэрай кашулі і стракатай шапачцы з брылём, — падумала: відаць, сапраўды — штосьці змянілася ў нашым жыцці, калі такому несамавітаму — прысвоілі ажно народнага! Але цалкам можна спадзявацца, што «жывым класікам» ён не будзе.

Ён адчувае настойлівую патрэбу працаваць з маладымі ў БДТМІ: вучыцца ў іх (на гэтым ён сам настойвае: «вучуся»), рабіць на сцэне тое, што ў тэатры немагчыма, а тут — чароўная свабода, нязмушанасць і незалежнасць. І — аб чым не любіць гаварыць, і таму, відаць, яно і ёсць галоўнае — мае патрэбу вучыць, перадаваць тое, што назапашана вопытам і што калісьці атрымаў ад сваіх настаўнікаў. І перш за ўсё — ад прафесара Д. А. Арлова. Той юны «пеўнік» так быў аддany свайму педагогу, што нават трошкі шапялявіў, як і Дзмітрый Аляксеевіч!.. (Так гэта ў яго і засталося, і ўжо ў каго-нікога з вучняў Мілаванава заўважаеш «с» замест «ш»!..) Але да атрыманых ім у спадчыну скарбаў — інтэлектуальнай, маральнай патрабавальнасці, непрымання прыблізнасці і паўвеДання ён ставіцца як да прафесіянальных, грамадзянскіх якасцей і гадуе іх у вучнях і ў сабе.

«Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» ў артыкуле пра Мілаванава адзначае: «Творчай манеры М. уласцівы псіхал. дакладнасць характару, ацэначнасць паводзін персанажаў, выразны знешні малюнак ролі, тонкае адчуванне стылю і жанравай прыроды твора». На жаль, энцыклапедычны жанр сціслы, побач з «ацэначнасцю паводзін персанажа» няма месца, каб адзначыць поўную адсутнасць позы, сумленнасць М. на сцэне і ў жыцці...

Мне здаецца, што «дамінанта» яго характару—здольнасць глядзець праўдзе ў вочы. Без хлусні, без самападману, без ружовых ці чорных акуляраў. Я веру яму, калі ён адзін са сваіх артыкулаў завяршае словамі:

«Кожнаму трэба пачынаць з сябе. Выціскаць з душы сваёй рабскую псіхалогію. Гэта цяжка, балюча — але неабходна. Адраджэнне настане толькі ў тым выпадку, калі мы сумленна і шчыра скажам сабе, што мы ёсць на самай справе. А калі не хопіць пораху, дык не будзем тлуміць галаву пакаленню, якое крочыць за намі. Не будзем размахваць перад ім фальшывымі сцягамі былых перамог, усхваляючы раздзьмутыя аўтарытэты. Будзем называць рэчы сваімі імёнамі».

Калісьці давялося пачуць з вуснаў Мілаванава, як ён заклікаў гэткіх жа маладых, як ён тады, «біцца мордаю аб стол», змагаючыся за мастацтва сумленнае, праўдзівае. З тых часоў ён навучыўся выказвацца больш дыпламатычна, але без усялякага там «акадэмічнага халадку». І, мабыць, так будзе заўсёды — кантэкст часу вымагае і праўды, і нераўнадушнасці, і называнне рэчаў сваімі імёнамі.

**Лілія БРАНДАБОУСКАЯ.**

---

думанай у доўгагадовай перспектыве праграме. Існуючы амаль дзесяць гадоў у самастойным канале вяшчання, наўрад ці сёння рэспубліканскае тэлебачанне да канца ўсведамляе свае глыбокія карані ў пласце нацыянальнай культуры і духоўнасці, якая адпавядае яе этнічнаму тыпу.

Магчыма, да месца былі б тут словы Шэкспіра аб тым, што ўвесь свет — тэатр, а людзі — акцёры, якія ў агульным сэнсе даказваюць роднасць старажытнай і новай — электроннай — муз. Таму што і на самай справе — тэлебачанне ў вядомым родзе «пастановачнае мастацтва». «Спектаклі» ў формах самога жыцця мы бачым штодня, якую перадачу ні ўзяць: рэпартаж, каментарый, дыскусію. І калі на экране нас часам раздражняе статычнасць, млявасць, безгустоўе тэлевізійнага дзеяння, дык гэта якраз сведчанне таго, што тэлебачанне не мае перад сабой самабытнага мастацкага эталону для штодзённай вучобы, для добрага пераймання. А вучыцца яно, як правіла, у Цэнтральнага ТБ. Адсюль падобныя, аднолькавыя структуры не толькі дакументальных, але і мастацкіх праграм, у якіх нацыянальнае аблічча вычэрпваецца толькі што роднай мовай.

Штучна затарможаная традыцыя сувязі з мастацтвам тэатра, якая адышла ў формы, што патрабавалі мінімальных фізічных выдаткаў: тэатр дакумента, публіцыстычны тэатр, літаратурная кампазіцыя і г. д.— парушылі натуральны рост мастацкага патэнцыялу ТБ. Бо грамадска-палітычнае і мастацкае вяшчанне — злучаныя сасуды. Упаў узровень у адным, і вось ужо ледзь бачны ён у другім. З тэлеспектакля сёння амаль цалкам адышоў элемент гульні, ён стаў падобны на звычайную перадачу...



«Дыхайце эканомна» А. Макаёнка. Сцэна са спектакля.



«Я, Іван Дамінікавіч...» В. Вярбоўскай. Сцэна са спектакля.

Арыгінальных пастановак зусім няшмат у рэпертуары Беларускага ТБ. «Апошняя ноч» у пастаноўцы У. Карпілава, «Я, Іван Дамінікавіч» В. Вярбоўскай— У. Забелы, «Алімпіяда» І. Пташнікава—А. Гутковіча, «Дыхайце эканомна» А. Макаёнка—В. Мацюшэўскага, «Лісты так доўга ідуць» А. Мальдзіса—Н. Арцімовіч, «Давыд Гарадзенскі» В. Іпатавай—Н. Гаркуновай. Магчыма, яшчэ колькі назоваў. Не ўсе яны раўнацэнныя па мастацкім узроўні, не ўсе арганічныя для сучаснага ўспрымання. Што б там ні было, а вока сённяшняга гледача адточана звычкай да экраннай вобразнасці. І калі, дапусцім, малады рэжысёр Н. Гаркунова валодае аўдыявізуальнай выразнай формай, дык у другіх работах больш агляднкі на чыста тэатральныя прыёмы. А ім часам не стае, як у «Івану Дамінікавічу», акцёрскага размаху.

Шмат праблем і, акрамя матэрыяльных, у сучаснага беларускага тэлетэатра. Марудна ён узнаўляе свой крывацёк, сваю жыццяздольнасць. Ад тэматычнага фармалізму нядаўніх гадоў, калі як быццам уся наяўная беларуская літаратура так альбо іначай «пракатвалася» на экране, да сучасных аўдыявізуальных форм вобразнасці, характэрных развітому тэлебачанню,—напэўна, каб гэту дыстанцыю прайсці, патрабуецца час, патрабуюцца новыя творчыя ўмовы.

ЦІ ЁСЦЬ ЯНЫ сёння ў Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм? Таксама пытанне няпростае. Рэдакцыя «выдае» ў сетку вяшчання вялікі аб'ём перадач. Штомесячны выпуск «Тэатр і час», запісы спектакляў у тэатрах рэспублікі з наступнай іх падрыхтоўкай да эфіру, дэманстрацыя фондавага відэаматэрыялу мінулых гадоў — своеасаблівая анталогія беларускага тэлетэатра, ажыццяўленне абмену тэлеспектаклямі з саюзнымі рэспублікамі, работа над узноўленай з 1988 года рубрыкай «Літаратурны тэатр», абнаўленне цыкла «Творчыя партрэты» з уключэннем пастановачных элементаў, рэгулярная трансляцыя мініцыкла «Паэзіі радок чароўны» — гэта штодзённыя, апаратыўныя клопаты, якія запаўняюць час рэдактараў і рэжысёраў, што працуюць у рэчышчы «тэатральнай» тэматыкі. З ёй перакрыжоўваюцца ўласна «літаратурныя» перадачы, праграмы па выяўленчым мастацтве. Не забудзем назваць і тыднёвую «Ліру», якая заваявала папулярнасць не толькі па-сапраўднаму пазнавальнай праблематыкай, але і рэгулярнасцю кантактаў з аўдыторыяй.

Не хачу навязваць сваёй думкі, аднак скажу: такое буйное «калятэатральнае» жыццё вакол непасрэдна тэлевізійнага тэатра — ці не прыціскае яно кволыя, маленькія парасткі самога жанру? Не буду, напрыклад, спрачацца вакол цікавасці рэдакцыі да «Літаратурнага тэатра». Гэтая форма пакуль пераходная. Яна дазваляе зарыентаваць беларускага гледача на класіку, вядомыя і новыя імёны ў беларускай літаратуры нашага часу. Але ў самім драматычным мастацтве пакуль не хапае паглыбленага аналізу гістарычнай і культурнай спадчыны. Не хапае часу, сіл? Магчыма. Хоць абрысы перамен тут вымалёўваюцца. Рыхтуецца да пастаноўкі «Мілы чалавек» К. Крапівы, малавядомы сучасніку. Пачаў ствараць спектакль паводле непастаўленай у тэатры п'есе «Антон» М. Гарэцкага тэатральны рэжысёр В. Маслюк, нібы ўвачавідкі рэалізуючы сувязь мастацтва вялікай і тэлевізійнай сцэны.

Ці выпадковыя гэтыя новыя накірункі ў рабоце літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага ТБ? Тут мяркуюць, што не. Больш таго, рэдактары В. Ракіцкі, Г. Суша, М. Вашчула, рэжысёры А. Каламіец, У. Траццякоў упэўнены, што наспеў час ажыццявіць ідэю прафесіяналізацыі тэлевізійнага тэатра. Прапаноўваецца стварыць спецыялізаваную групу творчых работнікаў ТБ, якія аб'ядналі б намаганні ўсіх рэдакцый у драматычным жанры, распрацавалі б адзіную рэпертуарную і эстэтычную палітыку, прыцягваючы на рэспубліканскае тэлебачанне творчыя сілы з сучаснай беларускай літаратуры, драматургіі, тэатральнай рэжысуры, акцёрскага корпуса.

Ці правамоцная такая ідэя? А чаму і не паспрабаваць? У рэшце рэшт, час зараз такі, калі эксперыменты ставяцца і не ў такім маштабе. За плячамі нашых ініцыятараў — сапраўдная заклапочанасць лёсам мастацкага тэлебачання, веды ў галіне нацыянальнай культуры, жаданне ісці не на покліч капрызлівай моды на нацыянальную экзотыку, а ўслед за складзенай традыцыяй народнай культуры.

Глядач стаміўся чакаць добрай будучыні не толькі ў сферы спажывання матэрыяльных каштоўнасцей. Яму неабходны надзейныя і пэўныя духоўныя арыенціры сёння, цяпер, каб зразумець, што адбываецца са светам і з ім самім. Прыйшоўшы ў наш дом, электронная муза XX стагоддзя ці знойдзе з намі адказы на гэтыя пытанні нашага быцця?

**Ніна ФРАЛЬЦОВА.**

# Ахвяры

(Пачатак на стар. 8—9).

І забыўся Шабовіч на стомленасць. Як добра паспаў. Але забыўся і на небяспеку. Здаваў карты дзвюма рукамі. І на рагу не стаяў, а перад сталом — напроціў праціўніка, тварам у твар. Той сапраўды мог бы збіць яго сталом. Але што гэта яму дасць? Стрэліць можна і лежачы пад сталом. Переканаў сябе, што нападаць Чурсік не стане — не той храбрэц! Ды і ўвогуле: калі ты прыйшоў да чалавека — старайся паверыць яму нават і ў такой незвычайнай сітуацыі. Да поўнага гада не павяла б ніякая хітрасць збіць немцаў з панталыку.

Выйграў адну партыю, другую. Узрадаваўся, што галава не атупела зусім — варушацца шарыкі. Чурсік — карцёжнік са стажам, у пульку мала хто яго абыгрываў. І ў ачко.

Выйгрыш даваў імпэт, настройваў бадай на вясёлы лад.

— Вось табе і судзьба, пан дурань.

А Чурсік змрачнеў ад таго, што і ў карцёжнай гульні заставаўся ў дурнях. Хапіла б таго, што яго арыштавалі разам з падпольшчыкамі. А цяпер адзін з іх зваліўся на яго галаву, завалодаў пісталетам і гаспадарыць у доме. Чым гэта яшчэ скончыцца?

Але ўдача — што здрадлівая жонка, і мужа лашчыць і любоўніка. Карцежная ўдача перайшла да Чурсіка, у добрых гульцоў часта так здараецца.

— А што. не казаў я — судзьба што вецер. Пасля пятай партыі палезеш пад стол. І кукарэкаць будзеш.

— Я закукарэкаю, а ты свіннёй завішчыш... той, што ўшчамілася ў плоце.

— Палайся больш — туман напусціш, карт не ўбачыш. Што гэта за ход? Што за ход? Мая Надзька разумней ходзіць. Навошта ты трымаеш шасцёркі?

— На пагоны табе. Начаплю фельдмаршальскія. Хто там у Гітлера ў фельдзіках? Бош — Вош? Ромель — Фомель? Воўчая зграя! Што ты азіраешся? Баішся, што слухаюць твае гаспадары? А чаму гэта ў цябе партрэта Гітлера няма? Прыпішуць табе непавагу...

— У карты глядзі, а не на сцены. Часта міргаеш, пан партызан.

— Глядзі! А ты здагадлівы! Доўга думаў?

— Дадумаўся, як бачыш.

— Думай, думай, можа, паразумнееш. А то заплылі твае мазгі... Знаеш, чым яны заплылі ў цябе?

— На, пабі! — Чурсік кінуў карту злосна, размахнуўшыся. — А што, з'еў? Забірай і гэты мех. Ты ў мяне яшчэ хапнеш гарачага! Пагоны ён хоча навесіць! Соплі вытры!

І Шабовіч не абураўся, бо прыкладна такімі ж словамі яны перакідваліся і ўчора і кожны раз, карты сціралі ўсе межы, развязвалі языкі. Не абыходзілі і палітыкі, але так, што размежаванасці не было — хто ёсць хто, Іван Ткачук мог уплесці ў сваю пустабрахню Сталіна, а Чурсік праехацца па Гітлеру, за што лаяла Хрысціна.

«Ну, і язык у цябе! Глядзі, падрэжуць». «Не бойся, Хрысця, тут жа ўсе свае».

Не здагадваўся паліцай, каго называў сваімі.

Цяпер Чурсік ведаў, хто перад ім. Але паводзіў сябе па-ўчарашняму, калі лічыў гэтых хлопцаў сваімі. Такая незалежнасць падбадзёрвала ці ва ўсялякім разе нібыта пацвярджала, што ён не ўніжаецца перад сваім узброеным канваірам, а паводзіць сябе, як гаспадар. Урэшце яшчэ невядома, хто ў каго ў палоне, невядома, да каго павернецца ўдача. Тут сапраўды такі лёс, у які ён слепа верыў. Але якой «судзьбы» чакаў? Чаго яму больш хацелася — каб Хрысціна прывяла немцаў? Ці каб выканала даручэнне гэтага нахабніка, і ён употай пакінуў бы яго дом?

Пасля роздуму яшчэ да гульні, нават пасля абразы эпізодам з дранікамі, пасля абурэння нахабствам Шабовіча, калі закіпела смяртэльная злосць на яго, — нават пасля ўсяго гэтага перацягвала «мірная» бяскроўная шаля. Дакараў сябе за мяккацеласць, бяззубасць. Аднак разуменне таго, што ў ціхім варыянце больш шанцаў на ўласнае выратаванне, на бяспеку сям'і, пераважвала. Пасля папярэджання Шабовіча падумаў і пра тое, што якраз і нядрэнна зрабіць паслугу партызанам. Закінуць на будучае. Шабовіч, выходзіць, не апошняя шышка там у іх. Няхай жа ведаюць, што і ён, Чурсік, не прадаў душу за срэбранікі. Дык чаму не паблазнаваць, не паказаць хоць гэтак сваю смеласць? Маўляў, а мне трын-трава. Але Шабовіч разумеў інакш: балбоча Чурсік ад страху. Бо і самога бяздумнае, звыклае крыўлянне як бы адводзіла ад прорвы, у якую, калі моўчкі мераў крокамі пакой, мімаволі заглядваў. Няхай балбоча, чорт з ім. Ён таксама не адстае, не саромеецца на эпітэты, пажаданні, прароцтвы. Яны больш бязлітасныя, пагрозлівыя — і Чурсік агрызаецца на іх з аглядкай, не абуджае ў ім злосці.

Захапіла гульня. Захапіла слоўная перастрэлка. Цешыла, што адступіла зморанасць і санлівасць. Аднак схамянуўся ў той міг, калі рука пацягнулася да крэсла, што стаяла збоку, каб падсунуць яго і сесці. Гэта ўжо зусім недазволеная раскоша. Не губляй, Станіслаў, пільнасці! Кінуўшы чарговую карту, павярнуўся да акна: што там, на вуліцы? І ледзьве не скачком кінуўся да прасценка паміж вокнамі.

Да дома ішлі паліцэйскія. Двое. За ім? Не, непадобна. Мірна, па накіданых цаглінах, кавалках дошак фарсіруюць гразкую вуліцу, перабіраючыся з таго боку на гэты. Выставілі сябе што на паказ. Кураць. Так не ловяць нават дылетанты. Не за ім. Але няма сумнення, што ідуць да Чурсіка. Праведаць? Лагічна — паліцай не з'явіўся на службу. Не стане ж СД дакладваць паліцыі, дзе цэлую ноч пратрымала іх чалавека.

Не за ім. Але калі Хрысціна не зачыніла дзвярэй...

— Што ты там прыліп да сцяны? Засвярбела, дзе сядзела? Твой ход.

— Васіль, да цябе госці.

Чурсік падскочыў, збялеў. Карты з рук яго паляцелі пад стол.

— Не выстаўляйся ў акно! Цяміш? — цыкнуў на яго Шабовіч. — Калі Хрысціна зачыніла нас, не абзывайся. Нікога няма. Ідуць сябры твае, здаецца, мірна, — Шабовіч дастаў з кішэні пісталет. — Калі ж не зачыніла нас, вырашай сам, як прыняць гасцей. Але не забывайся, што я табе сказаў. Жывым я не дамся. І нашы спытаюць у цябе... — павярнуў рычажок засцерагальніка, цяпер даволі націскаць на спускавы кручок «вальтэра» — і сем куль паляцяць у цэль. Толькі сем. Мала! — Дзе абоймы?

— Запасная ў пінжаку ў кішэні. У спальні на кручку вісіць.

— Цяміш, што да чаго?

— Цямлю.

Скрыпнулі весніцы. Вось яны на ганку — аббіваюць з ботаў гразь. Культурныя.

Зачынена? Адчынена? Здаецца, дзынкнула клямка. Зачынена! Пранесла? Але яны могуць заглянуць у вокны.

— За камод! Прысядай!

Шабовіч прысеў побач з Чурсікам — як хлапчукі, што гуляюць у схованкі.

Не, не пранесла. Выразна ляпнулі дзверы ў сенцы.

— Сустракай гасцей. Спакойна! Што ў цябе рукі калоцяцца? Курэй краў ці што? Пастарайся завесці іх на кухню. А я падрамлю ў спальні, пакуль вы пагаворыце. Цяміш?

# Канцэпцыя праўды

(Пачатак на стар. 5).

АДЛІГА ў грамадска-палітычным клімаце краіны пасля XX з'езда КПСС па сутнасці не паўплывала на гістарычную навуку ў Беларусі. У гэтай сувязі варта напомніць такі эпізод. М. Ларчанка ў канцы 1956 г. ў «ЛіМе» зноў паставіў пытанне аб пераглядзе ацэнак творчасці фактычна выкінутых з гісторыі нацыянальнай літаратуры і культуры пісьменнікаў-нашаніўцаў К. Каганца, Ядвігіна Ш., А. Гаруна, а таксама газеты «Наша Ніва». На думку М. Ларчанкі, нельга было ацэньваць «Нашу Ніву» без уліку публікацый на яе старонках многіх твораў Купалы, Коласа і іншых паэтаў і празаікаў рэвалюцыйна-дэмакратычнага накірунку. Аўтар прапанаваў правесці дыскусію па гэтых пытаннях, і рэдакцыя «ЛіМа» прыняла прапанову. Але дыскусія не адбылася. Гісторыкі Л. Абэцэдарскі і А. Сідарэнка ў студзені 1957 г. апублікавалі ў «Звяздзе» артыкул «За ідэйную чысціню нашых літаратурных пазіцый». Беспадстаўна абвінаваціўшы Ларчанку ў адступленні ад ленінскіх пазіцый, яны самі насуперак Леніну і ў адпаведнасці з антынавуковымі ўстаноўкамі сталінскага «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» заявілі, што «ва ўмовах Расіі перыяду імперыялізму ідэалогія буржуазнага дэмакратызму не была і не магла быць прагрэсіўнай». («Звязда», 1957, 12. 01). Такім чынам на дыскусіі была пастаўлена кропка. І ўсё ў нашай гістарыяграфіі нацыянальна-вызваленчага руху засталося па-ранейшаму. Сам Ларчанка неўзабаве перайшоў на пазіцыі сваіх уплывовых апанентаў і, у прыватнасці, далучыў К. Каганца да прадстаўнікоў рэакцыйна-дваранскага напрамку, якія «прапаведвалі рэакцыйныя ідэі захавання царска-памешчыцкага ладу» («Па шляху рэалізму», Мн., 1959, с. 82 — 84).

**Нельга не адзначыць, што ў нашай рэспубліцы ў 60-я гады рабіліся спробы пераацэнак пэўных з'яў у гісторыі беларускага нацыянальнага руху. У часопісе «Полымя» (1963, № 2) М. Верабей апублікаваў артыкул «Ленінскі твор на старонках газеты «Наша Ніва», у якім выявіў вельмі блізкую сэнсавую і нават тэкстуальную пераклічку ананімнага нашаніўскага артыкула «Навуковая сістэма выціскання поту» (1913, 10.05) і аднайменнага артыкула У. І. Леніна ў газеце «Правда» (1913, 13.03). Разам з тым аўтар паказаў прагрэсіўныя пазіцыі газеты па некаторых іншых пытаннях, адзначаў у прыватнасці, што яна асвятляла цяжкае становішча сялян і рабочых.**

**Публікацыя артыкула М. Вераб'я выклікала пагромную рэцэнзію Л. Абэцэдарскага, В. Яфрэмавай, Я. Карнейчыка і К. Шабуні («Вопреки историческим фактам». — «Коммунист Белоруссии», 1963, № 5). Аўтары прызналі пытанне аб класавым і палітычным абліччы газеты «Наша Ніва» вырашаным, спаслаўшыся пры гэтым, як на «ісціну ў апошняй інстанцыі», на публікацыі В. Барысенкі ў «Полымі» № 2 за 1948 і № 2 за 1949 г., а таксама на артыкул Л. Абэцэдарскага і А. Сідарэнкі ў «Звяздзе» ад 12.01.1957 г. Рэцэнзенты не адмаўлялі той факт, што «Наша Ніва» друкавала артыкулы аб цяжкім становішчы рабочых і сялян, але, сцвярджалі яны, «гэта было ліберальнае, дэмагагічнае заігрыванне з рабочымі і сялянамі, гульня ў дэмакратызм ва ўгоду буржуазіі і яе класавым інтарэсам» (!). Рэцэнзенты заявілі, што патрабаванне беларусізацыі школы на Беларусі, якое настойліва выстаўляла і прапагандавала «Наша Ніва», «было ва ўмовах царскай Расіі глыбока шкодным нацыяналістычным». Каруся Каганца — аднаго са стваральнікаў БСГ і публіцыста «Нашай Нівы», які зусім не меў уласнай зямлі, сям'і якога ў час яго турэмнага зняволення за рэвалюцыйную дзейнасць пагражала галодная смерць, Абэцэдарскі і кампанія аднясілі да буйных землеўладальнікаў. Яны не пасаромеліся нават запазычыць з чарнасоценнай прэсы правакацыйны паклёп, быццам фінансавую падтрымку «Нашай Ніве» аказвалі польскія магнаты Вайніловіч, Івашкевіч, Магдалена Радзівіл. А ў заключэнне абвінавацілі рэдакцыю «Полымя» за публікацыю «Успамінаў пра брата» акадэміка І. І. Гарэцкага за тое, што ён не адзначыў прыналежнасць Максіма Гарэцкага да беларускіх буржуазных нацыяналістаў. Адпаведныя органы прымусілі рэдакцыю «Полымя» перадрукаваць гэты абвінаваўчы акт на сваіх старонках.**

Гэтае выступленне не ўплывала, аднак, на пазіцыю акадэміка АН БССР Ц. Гарбунова, які ў 1964 г. апублікаваў у маскоўскім выданні «400 лет русского книгопечатания» раздзел аб кнігадрукаванні ў Беларусі ў канцы XIX — пачатку XX ст. Аўтар адзначыў важную ролю «Нашай Нівы» ў гісторыі барацьбы беларускага народа за стварэнне сваёй дзяржаўнасці, а таксама народнай нацыянальнай літаратуры і культуры, падкрэсліў істотныя змены ў пазіцыях газеты ў той час, калі адказным яе рэдактарам быў Я. Купала. У цэлым Ц. Гарбуноў ацаніў «Нашу Ніву» як саюзніцу бальшавіцкага друку таго часу.

Аднак кіраўнікі ідэалагічнай службы рэспублікі і рэдакцыя «Коммуниста Белоруссии» неўзабаве далі водпаведзь Ц. Гарбунову ў духу вышэйпрыведзенай рэцэнзіі.

У 1966 г. аўтар гэтых радкоў апублікаваў у «Полымі» (№ 8) артыкул «У змаганні за лепшую долю», прысвечаны 60-годдзю з часу выдання газеты «Наша доля». Аналіз публікацый «Нашай долі» паказаў, што яна, а тым самым і Грамада займала рэвалюцыйна-дэмакратычныя пазіцыі, хоць ва ўмовах наступлення контррэвалюцыі і рэакцыі ў канцы 1906 г. у пазіцыях кіраўнікоў газеты праявіліся пэўныя ваганні ў бок лібералізму. У 1971 г. выйшлі працы С. Александровіча («Пуцявіны роднага слова»), У. Конана («Демократическая эстетика Белоруссии»), у якіх у пэўнай ступені паказаны прагрэсіўны характар беларускага нацыянальна-культурнага руху і пазіцый газеты «Наша Ніва». Істотныя карэктывы ў ацэнку БСГ, газет «Наша доля» і «Наша Ніва» ў пачатку 70-х гадоў удалося ўнесці аўтару гэтых раздкоў у другім томе «Гісторыі Беларускай ССР» і ў адпаведных артыкулах Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

І ўсё ж новае асвятленне гісторыі беларускага нацыянальнага руху прабівалася ў друк з незвычайнымі цяжкасцямі. Напрыклад, прадстаўляючы ў 1985 г. заказаны мне юбілейны артыкул пра рэвалюцыю 1905 — 1907 гг. у часопіс «Весці АН БССР, серыя грамадскіх навук», у якім была зроблена спроба даць больш аргументаваную характарыстыку ролі і значэння «Нашай Нівы» ў беларускім нацыянальным руху, я сустрэўся з катэгарычным патрабаваннем рэдакцыі скараціць некаторыя старонкі — сказаць не больш, як у маім жа артыкуле пра «Нашу Ніву» ў БелСЭ. Пры гэтым рабіліся спасылкі на існаванне нейкіх указанняў «зверху».

У СПРОБАХ пазбавіць народ гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці з тым, каб у бліжэйшай будучыні рэалізаваць вульгарна-марксісцкую, сталінскую канцэпцыю аб «зліцці» нацый і нацыянальных культур як адну з надуманых перадумоў будаўніцтва камуністычнага грамадства, кіраўнікі нашай рэспублікі ў апошнія дзесяцігоддзі ішлі далёка наперадзе іншых. А ў выніку атрымалася шырокае распаўсюджанне не камуністычнай інтэрнацыянальнай свядомасці, а нацыянальнага нігілізму, дэгуманізаванай, касмапалітычнай маскультуры з яе спадарожнікамі — бездухоўнасцю і маральнай дэградацыяй асобы.

Трэба выпраўляць дапушчаныя памылкі. Гэта датычыць, вядома, і гісторыкаў, усіх грамадазнаўцаў, задача якіх — сказаць новае, праўдзівае і пранікнёнае слова і пра мінулае, і пра сённяшні дзень свайго народа.

## Да 45-годдзя ПАЎСТАННЯ Ў СЛАВАКІІ

**Споўнілася 45 гадоў нацыянальнага паўстання ў Славакіі. Гэтай важнай даце ў жыцці братняга народа прысвечаны ў Мінску дзве выстаўкі.**

**Адна з іх называецца «Партызанскі рух у Славакіі ў гады другой сусветнай вайны» і экспануецца ў Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Шматлікія фотаздымкі, падрыхтаваныя музеем Славацкага нацыянальнага паўстання ў Банска-Быстрыцы, падрабязна расказваюць аб барацьбе славацкага народа з фашызмам. Дакументы аб'яднаны ў раздзелы «Чэхаславацкія грамадзяне ў замежным Супраціўленні», «Расчляненне Чэхаславацкай рэспублікі», «Вяршыня партызанскага руху ў Славакіі ў перыяд нацыянальна-дэмакратычнай рэвалюцыі і вызваленне Чэхаславакіі Савецкай Арміяй (жнівень 1944—1945 гады)» і інш.**

**У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР у гэтыя дні Славацкая нацыянальная галерэя прадстаўляе работы класіка славацкага мастацтва, народнага мастака Славакіі Марціна Бенкі. У экспазіцыю ўвайшлі 67 жывапісных работ з гэтай галерэі і музея горада Марціна, дзе мастак жыў і доўгі час працаваў. Усяго ж ім напісана 10 тысяч твораў.**

## НА ГАСТРОЛЯХ — ЛЯЛЕЧНІКІ

**У Югаславіі на гастролях знаходзіцца вялікая творчая група Дзяржаўнага тэатра лялек БССР. Гледачы гэтай краіны знаёмяцца з дзвюма работамі калектыву — новым спектаклем «Здарэнне ў горадзе Гога» і ўжо вядомым «Дзедам і Жоравам». Тэатр прыме таксама ўдзел у Міжнародным фестывалі тэатраў лялек, які ў 22 раз праходзіць у горадзе Заграбе.**

**Другая творчая група беларускіх лялечнікаў выступае ў Галандыі. Леташнія гастролі ў гэтай краіне прайшлі з поспехам. Цяпер — новая сустрэча.**

**НАШ КАР.**

## Паэзія

Падборка, што прапануецца лімаўскаму чытачу, належыць аўтарам розных узростаў, прафесій і, безумоўна, жыццёвага лёсу. Але ўсе яны — паэты, і гэта пацвярджаюць іх творы.

Хочацца бліжэй пазнаёміць чытачоў з аўтарамі-гамяльчанамі. Яны — мае землякі, плячо да пляча мы і на гарадскіх вуліцах, і на палявых бальшаках, і на літаратурнай сцяжыне.

Старэйшы і ў жыцці, і ў літаратуры — Іван Кірэйчык. Чалавек складанага лёсу. Хораша пачынаў, яму прарочылі дарогу ў літаратуры, усыпаную ружамі. Мог бы ён, як і яго літаратурныя аднагодкі, даўным даўно мець сваю кніжку. Але нялёгкай і крутой была яго сцяжына да мастацкага слова. Я не памылюся, калі скажу: сёння паэт (а ён яшчэ і празаік, і публіцыст) пераасэнсоўвае пражытае, робіць для сябе правільныя высновы. І хоць жыццё падкінула яму ўдабавак да ўсяго столькі гаркаты, што і ворагу не пажадаеш, — пахаваў двух сыноў, аднаго з іх — салдата, ён піша вершы.

Даўно ведаю і Міколу Старчанку. У свой час я быў юнкорам і селькорам Рагачоўскай райгазеты, а Мікалай Паўлавіч — яе супрацоўнікам. Ён піша вершы, здаецца, усё жыццё. Шкада — мала, таму і друкуецца рэдка. Зараз М. Старчанка — у абласной газеце, нязменны загадчык аграпрамысловага аддзела. Не заспець яго ў рэдакцыі. Таму, можа, кожны новы верш — што тая салдацкая радасць пасля ўзятай з боем вышыні?

Таіса Мельчанка ў літаратурным асяроддзі Гомельшчыны таксама чалавек вядомы. Часта ездзіць па пуцёўках таварыства кнігалюбаў да сваіх чытачоў, асабліва спяшаецца ў пацярпелую ад чарнобыльскай аварыі Нароўлю, дзе працавала пэўны час у школе. Выдала сёлета кнігу вершаў «Бацькоўскі дом», раней было калектыўнае «Крыло». Працуе настаўніцай роднай мовы і літаратуры ў СШ № 53 г. Гомеля.

Алесь Дуброўскі — паэт настрою: то піша, то маўчыць. Рэдактар абласной студыі тэлебачання. Удзельнічаў, як і Т. Мельчанка, неаднаразова ў каралішчавіцкіх нарадах. Не адводзіць вачэй ад дадаткаў часопіса «Маладосць», мае намер там надрукавацца. А чаму б і не?

Івана Мядзведзева, на жаль, ведаю толькі па вершах, яны сустракаюцца ў гомельскай раёнцы «Маяк», у абласной газеце, зрэдку — у рэспубліканскім друку. Чытаў апавяданні ў «Бярозцы». Званіў неяк у Шарпілаўскую школу, хацеў з ім пагаварыць. Адказалі: не працуе, падаўся ў калгасную будаўнічую брыгаду. Хто ведае, дзе лепш паэту — у школе або на будоўлі?..

Алена Алешына — паэтычная надзея. У яе ўсё наперадзе. І праца з дзецьмі (яна студэнтка педвучылішча), і новыя вершы.

Вось і ўсё, што мне хацелася сказаць пра паэтаў з Гомеля, якім пашчасціла сабрацца разам на старонцы паважанай газеты. Гэта добра, што разам. Разам нам трэба быць часцей і ў жыцці.

Я, наколькі мне ўдалося, коратка і сцісла напісаў не пра дэбютантаў у літаратуры, як гэта ў нас прынята рабіць. І мэта ў мяне была, як жа без яе, — каб такія падборкі ляцелі на крылах-старонках часцей ва ўсе закуткі. І не толькі з маёй Гомельшчыны. Паэты ўсюды жывуць. Толькі адвечная загадка — дзе лепшыя.

**Васіль ТКАЧОЎ,**
адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення СП БССР.

**Іван КІРЭЙЧЫК**

### Абапал Сожа...

Абапал Сожа — травы, травы,
Так і нечэплены касой.
Бярозак светлыя купавы
Бягуць услед нам паласой.

За цеплаходам
Ціхім ходам
Здалёку сіні бор ідзе.
Нам разнаквеціцца прырода
Па берагах і на вадзе.

Мінаем Рудню,
Клёнкі,
Плёсы,
Над кручай Гомель, нібы звон.
І скрозь пялёсткі,
Скрозь пялёсткі,
Як і спрадвеку,
Як здавён.

Яны высвечваюць да неба
Надрэчча, шчодрае наўздзіў,
І цеплаход — як белы лебедзь,
Што ў разнатраўі заблудзіў.

Яны высвечваюць бяздонне,
Увесь касмічны непрагляд.
Зліве сонца ў кветкі промні —
Святлом у неба йдуць назад.

Вяслуе бусел роўна, плаўна
З лугоў да водшыбных сяліб...
І ўсё так добра,
Ўсё так слаўна,
Усё так велічна,
калі б...

Калі б нам душы не «аздобіў»
Тупы чарнобыльскі сіндром —
Людской нядбайнасці
Чарнобыль
Махнуў і тут сваім крылом.

І ўжо Надсожжа —
свеце мілы,
Што не змяняеш ні за што, —
Здаецца горкаю магілай,
Прыбранай кветкамі.
Нашто?..

**Мікола СТАРЧАНКА**

### Учарашнія— сённяшнія

Не хавайце вачэй
І не спіце начэй,
Учарашнія-сённяшнія.
Што ў вас там наўме
Вы не скажаце мне,
Учарашнія-сённяшнія.
Што ж палохае вас,
Можа, новы наш час,
Учарашнія-сённяшнія?
Што хаваеце вы?
Расстраляных равы,
Учарашнія-сённяшнія?
Чаго хочацца вам?
Каб не руніцца нам,
Учарашнія-сённяшнія?
Што на мэце у вас?
Заглушыць голас мас,
Учарашнія-сённяшнія?
Па душы вам застой?
У нас іншы настрой!
Учарашнія-сённяшнія.

### Неперспектыўнаю назвалі...

Вясковая пустая хата.
На вокнах дошкі, як крыжы.
Плыве з гароду водар мяты,
Лунаюць над страхой стрыжы.

Электраправады — дзве
жылы —
Нясуць сюды яшчэ святло.
А толку што? Яно без сілы.
Даўно забытае жытло.

Неперспектыўнаю назвалі
Калісьці вёску, з той пары
Сяляне ціха пакідалі
Свае абжытыя двары.

Замоўклі гарлапаны-пеўні,
Дарогу зацягнуў мурог,
З пакінутай ля плоту сеўні
Да сонца цягнецца быльнёг.

Хмызняк пайшоў на луг
у наступ,
Цяпер раздольна тут лазе,
У горадзе сялянка-Насця
Стаіць за бульбай у чарзе.

**Алесь ДУБРОЎСКІ**

### Наша мова

Калі браць шчасце за аснову
Трывог спрадвечных і
здабыткаў,
Удзячны маці я за мову,
Што сам народ на кроснах
выткаў.

Яна ў душы Узой пляскоча
І промнем сонца цёплым
служыць,
А ў цішыні зімовай ночы
Сняжынкай лёгка ў небе
кружыць.

Яна і ў красках першых вясніх,
Яна — ў лісцёвым шматгалоссі,
У салаўіных звонкіх песнях
І ў ціхім шоргаце калоссяў.

І на таку яна ў засекі
Цячэ адборным цёплым
збожжам...
А той, хто верны ёй навекі —
Усё адолее і зможа!

### Зубры пад Туравам

Напятую, як полаг, цішыню,
Якою Тураў цешыцца прывык,
За сто гадоў, напэўна,
упершыню,
Бы рогам, паласнуў зубрыны
рык.

Аж скалануліся вячыстыя дубы,
Якія смерч паварушыць не мог,
Пасыпаліся долу жалуды
І лісце закулялася ля ног.

У Азяранах сціх сабачы брэх —
Інстынкт самаахoвы спрацаваў,
Бо ў пакаленнях страчана на
грэх,
Што продак ім калісь наканаваў.

Упершыню за колькі мо вякоў
Дайшло да гэтых рыжых
валацуг:
Ратуе іх ад страху і клыкоў
Спрадвечны вораг — кованы
ланцуг.

...А рэха рвалася на поле і ў
сады,
Апавяшчала стоены абшар,
Што ў стольны Тураў сёння
назаўжды
Вярнуўся самы першы гаспадар.

●

Я ў першароднасці прымаю
Цябе халодны, белы снег,
Лунай над нашым родным
краем,
Які скрозь шчодры на начлег

На стук у шыбу абзавецца,
Прывеціць выйдзе на парог,
Пакліча ў хату абагрэцца,
З якіх бы ты ні быў дарог.

За стол запросіць: не пагрэбуй!
На ім усё, што ў печы ёсць.
Паставіць нават, што да хлеба...
З падзякай прыме кожны госць.

Такі закон маёй суполкі
Ад бацькі пераймае сын.
Было б і лепш, каб не
прагорклы
Сухі чарнобыльскі палын.

Ён так засмеціў нашы пожні:
Ні плугам знішчыць, ні касой.
Таму даруй нас, падарожнік,
Што не падносім сырадой.

Яго не шкода. Толькі шкодна.
Не проста выправіць агрэх...
Таму лунай над краем родным,
Хавай палын, халодны снег!

**Іван МЯДЗВЕДЗЕЎ**

### Веру я ў дабро

...і вечны бой —
спакой нам толькі сніцца...
А. БЛОК.

Не, я не быў на Калыме,
З трацкісцкім блокам
не вадзіўся,
І не «лявеў», і не «правеў».
Я ў 38-м нарадзіўся.

Але жыццё у пяты кут
Мяне запіхвала, як зэка,
Наводмаш біла там і тут,
Каб выбіць годнасць чалавека.

Ды ўсё-ткі верыў я ў дабро,
Якога так пакуль што мала,
І зноўку браўся за пяро,
Як толькі крыху адпускала.

Ў радкі пераплаўляўся боль,
Сплывалі крыўды і сумненні...
Калі жыццё — смяротны бой,
Дык толькі з-за чыноўнай
дрэні.

**Таіса МЕЛЬЧАНКА**

●

У нас было столькі шчасця,
Што, здавалася, хопіць яго
На цэлае жыццё,
І мы трацілі яго няшчадна.

У нас было столькі радасці,
Што мы дзяліліся ёю з кожным,
У каго на душы было марна,
Хто зрываўся і падаў.

У нас было столькі веры
У людскую шчырасць і
светласць,
Што мы расхрыствалі перад імі
Дзверы ў хату і ў сэрцы.
І вось мы з табой жабракі...

### Хрышчэнне

Схавалі аблокі
Блакіт пад крылом —
І ляснуў штомоцы
Разгневаны гром.
Далоні падставіла
Небу зямля,
Раскрыла засмяглыя вусны
Ралля.
Жар-птушка —
Маланка
Сляпіла агнём,
Пакуль не прарвалася
Неба дажджом.
Нясцерпную смагу
Ўталіла зямля —
Хрышчэнне сваё
Святкавала ралля.

**Алена АЛЕШЫНА**

### Маці

А ці многа,
А ці мала
Я на свеце
Пражыла,
А ўжо зведала,
Спазнала
Боль, празрысты боль святла.
Свеціць
І цяпер,
Здаецца...
Ціхі, радасны прамень.
Працінае наскрозь сэрца
І трымціць на зломе дзень.

І пякучы,
І балючы,
І праклятый гэты боль.
Ён і пекны,
І гаючы,
Мне яго адчуць
Дазволь.

●

Прыціхлая восень
Застыла пад снегам
І лісцікам кожным
Лягла да Зямлі.
І чуе, як дыхае
Змарана пожня,
Як рэжацца рунь,
Нібы зубы ў раллі.
Закрыю кватэру
На пятым паверсе,
Збягу я на поле,
Дзе рунь ажыла.
І сэрца затахкае
Гучна і вольна,
І песня пальецца,
Як сцежка з сяла...
І дзе мая сцежка
Дагэтуль была?

●

Хочацца сэрцу пяшчоты,
Ды замінаюць турботы,

Хочацца сэрцу любові,
Ды захліпнулася ў слове,
Сціслася, нібы ў капейку,
Стала малюсенькім нейкім,
Затрапятала яно,

Нібы ў руцэ птушанё...
Ціха, глядзі, адпускай,
Крыльцы яму
Не зламай.

## Па старонках друку

### Супрацьстаянне

Бадай, няма дня, каб у тым ці іншым выданні не з'яўляліся матэрыялы, зместам сваім звязаныя з ліквідацыяй вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, уплыву радыяцыі на навакольнае асяроддзе.

У цэнтры ўвагі грамадскасці рэспублікі — супрацьстаянне дзвюх навуковых канцэпцый. Як вядома, віцэ-прэзідэнт Акадэміі медыцынскіх навук СССР, старшыня Нацыянальнага камітэта па радыяцыйнай абароне (НКРА) акадэмік Л. Ільін, а таксама тыя, хто прытрымліваецца яго поглядаў, ратуюць за так званую «канцэпцыю бяспечнага пражывання» ў раёнах, дзе сумарная доза абпраменьвання не перавысіць за 70 гадоў 35 бэр. Іншая думка ў прэзідэнта Акадэміі навук БССР акадэміка У. Платонава і яго прыхільнікаў: радыяцыя, нават у самых малых дозах, шкодная для чалавека і бяспечнае пражыванне магчыма толькі ў радыяцыйна чыстай мясцовасці.

Супрацьстаянне думак.., «Супрацьстаянне» — так названа публікацыя аднаго з апошніх нумароў штотыднёвіка «Поиск» (орган АН СССР, Дзяржадукацыі СССР і ЦК прафсаюза работнікаў народнай адукацыі і навукі). Газета запрашае да гаворкі спецыялістаў, якіх даўно хвалююць праблемы, звязаныя з тэрмаядзернымі працэсамі і радыеактыўнасцю.

Высновы вучоных, якія жывуць вельмі далёка ад Чарнобыля, парады людзей «збоку», адкідаюць як непатрэбную «матэрыю» боль беларускай зямлі, якой нанесена яшчэ адна, ці не самая страшная рана. Не адчула, на жаль, гэтага болю і група экспертаў Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, запрошаная нядаўна на Беларусь для ацэнкі канцэпцый бяспечнага пражывання ў радыяцыйна забруджаных раёнах.

«Можна пражываць» — засведчылі яны. Не маглі не засведчыць, бо.., У публікацыі «Поиска» даецца слова народнаму дэпутату СССР прарэктару БДУ імя У. І. Леніна прафесару С. Шушкевічу: «Не стаўлю пад сумненне аўтарытэт замежных вучоных, але прафесары Д. Бенінсон і П. Пелерэн з'яўляюцца дзяржаўнымі служачымі краін, якія адмаўляюцца падпісаць дагавор аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі. Відавочна, дзяржаўная недаацэнка магчымых вынікаў прымянення ядзернай зброі вольна-нявольна сказваецца на светапоглядзе грамадзян, нават калі яны ацэньваюць абпраменьванне «мірнага атама».

Ды што міжнародная камісія, калі «свае» адмаўляюцца ад ранейшых рэкамендацый. Яшчэ раз працытуем словы С. Шушкевіча: «У 1976 годзе санітарныя правілы праектавання і эксплуатацыі АЭС (СПАЭС—76) устанавілі дапушчальныя дозы для абпраменьвання асобных груп насельніцтва — 0.5 бэра ў год. Праз тры гады ў новай рэдакцыі СПАЭС—79 гэта норма была павялічана ў 20 разоў!.. Як гэтыя строгія інструкцыі ўвязаць з тым, што з восені 1988 года АМН СССР настойліва прапануе лічыць бяспечнай дозу ў 400 разоў большую?! Дзесяць бэр у год! Па новай канцэпцыі «бяспечныя» 35 бэр за 70 гадоў набіраюцца па схеме: 10 бэр у першы год, 3,5 бэра — у другі, 2,5 бэра — у трэці і так далей».

У артыкуле «Поиска» прыводзяцца таксама меркаванні народных дэпутатаў СССР — віцэ-прэзідэнта АН БССР А. Сцепаненкі, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР Ю. Варонежцава, галоўнага вучонага сакратара АН БССР А. Ганчарэнкі і іншых. Думкі пераканаўчыя, да якіх нельга не прыслухоўвацца, бо, як сведчыць С. Шушкевіч, «тое, што з лёгкай рукі журналістаў называецца «канцэпцыяй адсялення», на самай справе з'яўляецца грамадзянскай пазіцыяй беларускіх вучоных. Чаго не скажаш аб «канцэпцыі бяспечнага пражывання».

А вось словы А. Сцепаненкі: «На думку многіх сталічных аўтарытэтаў, чым бліжэй да Чарнобыля, тым мацней радыяфобія. Не, мабыць тым мацней радыяцыя і пагроза чалавечаму жыццю. А вось чым далей ад эпіцэнтра, тым слабей, мабыць, голас сумлення».

НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.

*На жыццёвых скрыжаваннях*

# ВЕЧНАЯ МЕРЗЛАТА

**Анатоль МАЙСЕНЯ**

АД МАГАДАНА да капальняў ішлі чацвёра сутак. Кіламетраў дзвесце, не менш. Шлях быў цяжкі, людзі ішлі стомлена, моўчкі. Навокал, куды ні зірні, — сопкі, парослыя скручанымі сцюдзёным ветрам дрэвамі, імхом і кволай травой, з-пад якіх тырчэлі камяні. І толькі ў лагчынках густа раслі лістоўніца і хмызняк. Ішлі па нешырокай, гразкай дарозе, у калоне па трое. Па баках, наперадзе і ззаду, крочылі вартавыя з вінтоўкамі напагатоў. Калона расцягнулася метраў на трыста. Над галовамі раз-пораз завісаў хрыплы голас начальніка канвою: «Падцягніся. А ну наперад, сволачы!» Людзі ледзь перастаўлялі ногі. Некаторыя не вытрымлівалі: падалі на дарогу. Да іх зараз жа падбягалі канваіры, білі нагамі, прыкладамі ў спіну. У кагосьці хапала сіл падняцца і крочыць далей, даганяючы сваіх. Тых, хто не мог падняцца, сцягвалі на абочыну і прыстрэльвалі. Трупы скідвалі ў кювет. З шарэнгі папераддзе Эдзіка захістаўся і ўпаў плазам на дарогу стары. Асуджаныя паспрабавалі яго падняць, але стары зусім знясілеў, і ў іх не было сіл цягнуць яго за сабою. Яго так і пакінулі ляжаць. Калона абцякала старога, нібы рака адзінокі астравок. Калі Эдзік праходзіў побач, убачыў, што абяскроўленыя, пасінелыя вусны старога нешта шэпчуць, а з куточкаў заплюшчаных вачэй выкаціліся і застылі дзве буйныя слязіны. Аб чым ён шаптаў? Эдзік павярнуўся — ахоўнік, схапіўшы старога за руку, цягнуў абмяклае цела на ўзбочыну. Грымнуў стрэл. Эдзік здрыгануўся. Не, ён малады, яму толькі дваццаць чатыры, і ён хоча жыць. Насуперак усяму — жыць!..

...Першае, што ён заўважыў — велізарны партрэт Яжова на сцяне. Яжоў у фуражцы, з маршальскімі зоркамі на каўняры, строгі, з пранізлівым позіркам.

«Маё прозвішча Гладышаў. Я буду весці вашу справу, Клімовіч, — пачуў Эдзік. — Вы абвінавачваецеся ў тым, што мелі злачынную сувязь з Чарвяковым і Галадзедам і былі ў складзе шпіёнскай контррэвалюцыйнай арганізацыі, якую яны ўзначальвалі. Ці прызнаяце сябе вінаватым? Ведайце, добраахвотнае раскаянне можа аблегчыць ваш лёс». Вінаватым? У чым? Ён і Чарвякова, і Галадзеда ведаў толькі па фатаграфіях. Праўда, да Чарвякова ён разам з усімі хадзіў развітацца ў чэрвені леташняга года — доўгая чарада людзей, што праходзілі ля труны ў Доме ўрада... Вось і ўсё. Ды і хто ён такі быў, каб яго ведалі Чарвякоў і Галадзед? Просты рабочы хлопец, камсамольскі актывіст, якіх тысячы, з фабрыкі імя Куйбышава. Вядома ж, ён невінаваты. «Не, не прызнаю».

Гладышаў падняўся з-за стала. Гэта быў малады, на выгляд гадоў дваццаці пяці, высокі і даволі мажны хлопец са светлымі, коратка падстрыжанымі валасамі. Апрануты ён быў у цывільны касцюм з шырокімі бартамі і светлую кашулю ў цёмна-сінюю палоску. У крыху раскосых вачах Гладышава ўспыхнула злосць. «Кажаш, не ведаеш, не вінаваты. Ну, а як быць з тваім імем і імем па бацьку, Эдуард Карлавіч? Ці не ў палякаў панасіць пазычыў? У цябе ж там сваячкі жывуць, ці не так?»

У Эдзіка ў Польшчы жыла цётка, маміна сястра. Мама нарадзілася ў Заходняй Беларусі, але яшчэ ў 19-м пераехала ў Мінск. Так яны з таго часу і жылі — па розныя бакі граніцы. Цяпер вось і пра цётку ўспомнілі. «Я ні ў чым не вінаваты». «Хопіць прыдурвацца, Клімовіч». Гладышаў падышоў зусім блізка, ад яго патыхнула тытунём, зеленавата-шэрыя вочы свідравалі Эдзіка. «Не хочаш па-добраму? Справа твая. Для пачатку зробіш трыста прысяданняў, а то ж застаяўся, бачу. Ды ты ж у нас спартсмен, педалі круціш? А ну, лічы — раз, два, тры... Не саромейся, рабі... Што стаіш, сука, доўга чакаць буду?» Эдзік скарыўся, прысеў. Пасля пяці дзён, праведзеных у «амерыканцы», на турэмнай «баландзе», без свежага паветра, цела дрэнна слухалася. Але ў запасе яшчэ былі сілы—адзін... пяць... дзесяць... трыццаць... «Хутчэй, рукі не апускаць!» Пяцьдзесят... восемдзесят... «Каму сказаў, сволач?» Сто... сто пяцьдзесят... сто восемдзесят... Стаміўся, калені больш не гнуцца. «Што спыніўся? Можа, дапамагчы?» Эдзік бачыў, як Гладышаў замахнуўся, інстынктыўна павярнуў галаву ўбок. Удар прыйшоўся ў вуха — усё загуло, паплыло. Эдзіка кінула ўправа, ён пахіснуўся, адступіў, але на нагах устаяў. «Ну што, дапамагае? Давай далей, і рукі, рукі перад сабою трымаць. Пе-рад сабою, зразумеў?» Сто дзевяноста... дзвесце дваццаць... дзвесце сорак... Не магу, дзе ўзяць сілы? Ну, яшчэ крыху,—Эдзік у думках угаворваў сябе. Дзвесце восемдзесят... дзвесце восемдзесят пяць... дзвесце дзевяноста тры... дзвесце дзевяноста пяць... трыста. Усё... «Ну вось, добра. Спадзяюся, пасля такой гімнастыкі мазгі ў цябе прасвятлелі. Што цяпер скажаш?» «Я не вінаваты. я ніколі не сустракаўся ні з Галадзедам, ні з Чарвяковым». Гладышаў кінуўся да Эдзіка. «Ах ты, сука. Не прызнаешся? Я цябе прымушу, вырадак! Прымушу! Давай яшчэ дзвесце прысяданняў. Хутка! Каму кажу, сволач!»

Стомленыя ногі гулі, наліліся свінцом. Гладышаў з усёй сілы налёг на плячо Эдзіка, нібыта стараючыся сагнуць, зламаць хлопца. Эдзік адскочыў убок, рука Гладышава зляцела і акрэсліла паўкруг у паветры. «Ах, вось як ты, сука. Не падпарадкоўвацца надумаў? Я цябе навучу радзіму любіць, байструк польскі!»

У два скачкі Гладышаў падскочыў да стала і націснуў на чорную кнопку. Дзверы расчыніліся і ў кабінет уляцелі двое. Гладышаў, які нават пачырванеў ад злосці, і ледзь паспяваў пераводзіць дух, выкрыкнуў: «Гэты гад, контра польская, руку на мяне падняў! Пакачаем яго, можа, больш паважаць НКУС будзе».

Эдзіка збілі з ног і прыціснулі тварам да зямлі, рукі скруцілі за спіной. Ён бачыў, як Гладышаў з ахоўнікамі адпрацаванымі рухамі здымалі са скураной канапы, што стаяла ў кутку, спінку. Драўлянай рамай прыціснулі Эдзіка, самі ўзгрувасціліся зверху і пачалі «качаць» яго па паркетнай падлозе. Ад дзікага болю, што пранізваў наскрозь, Эдзік закрычаў. Потым — змрок...

Калі апрытомнеў, убачыў: над ім сядзіць турэмны доктар, абмацвае суставы. Эдзік хацеў падняць руку — дарэмна, рука вісела на адной скуры. Боль пякельны. Упёршыся нагою пад паху, урач рэзкім рухам ірвануў і паставіў руку на месца. Як электрычным токам ударыла— Эдзік ускрыкнуў і зноў страціў прытомнасць.

У камеру яго прыцягнулі на прасціне і кінулі на падлогу. Ахоўнік павярнуў ключ. Эдзіка адразу абступілі зняволеныя. Хтосьці намачыў у халоднай вадзе ручнік і прыклаў да перадплеччаў — фокус з «каталкай» яны ўжо выпрабавалі на сабе і ведалі, што гэта такое. Мінула паўдня. Эдзік яшчэ не паспеў адляжацца, ачуняць як след, прызвычаіцца да тупога, працяжнага болю ў суставах, калі ахоўнік крыкнуў: «Клімовіч, да следчага!»

Тры месяцы здзекаў. Амаль бесперапынна, дзень за днём яго трымалі на «канвееры» — мяняліся следчыя, на змену Гладышаву заступалі Лебедзеў, Бандарэнка. Метадычна, «рафінавана» яго апрацоўвалі, патрабавалі прызнацца, падпісаць. Білі, адлівалі вадою і білі зноў. Папка з матэрыяламі следства разбухала з кожным днём. Да пачатковых абвінавачванняў падшываліся новыя. Эдзіка ўжо абвінавачвалі ў падрыхтоўцы тэрарыстычных актаў на чыгунцы пры выпадку вайны з Польшчай. Альбо раптам яму аб'яўлялі, што ён агент «дэфензівы», меў заданне ўкараніцца ў савецкую авіяцыю з мэтай дыверсій (Эдзік займаўся да гэтага ў гарадскім аэраклубе). Здавалася, дзікая, злавесная фантазія следчых не мела межаў — версіі мяняліся, па дзесяць разоў перапісваліся, фабрыкаваліся зноў і зноў. Дзяржаўная здрада, контррэвалюцыйная дзейнасць, дыверсіі, шпіянаж... У клубок абвінавачанняў упляталіся зусім незнаёмыя Эдзіку імёны, неверагодныя, марсіянскія сітуацыі, факты. Трызненне нейкае. Галава ішла кругам. «Чаго яны ад мяне хочуць? Падпісаць? Не, не і не! Няхай б'юць. Вытрываю. Жыццё даражэйшае».

Эдзік добра засвоіў, куды прыводзіць падатлівасць на «ўгаворы» следчых — мякка сцелюць, ды жорстка спаць даводзіцца. У адной камеры з ім сядзеў Мота. Хто ў Мінску не ведаў Моту?! Да таго, як яго арыштавалі, Моту штодня можна было сустрэць на чыгуначным вакзале — з добразычлівай, праставатай усмешкай ён каціў сваю каляску, гружаную чамаданамі і іншай паклажай пасажыраў. Чалавека больш бяскрыўднага, чым Мота, цяжка было адшукаць. Моту часта задзіралі дзеці, бегалі за ім і дражнілі па-рознаму: «Мота, Мота, вылез з балота! Мота, Мота, бруду на паўрота». Мота не крыўдаваў на гэтых малых нягоднікаў, не ганяўся за імі. Усміхнецца толькі, прашэпча штосьці сам сабе і коціць далей сваю каляску. За што ўзялі бяскрыўднага Моту, і прыдумаць цяжка. А ўзялі ж вось. На допытах Моту не білі, напалохалі толькі першы раз, і гэтага дастаткова было. Мота падпісваў усё, што б яму ні падсоўвалі. З допытаў Мота вяртаўся ў гуморы, з пачкам махоркі і пячэннем у руках. Ён прастадушна, з усмешкай блазна на твары, расказваў зняволеным, як следчыя яго хвалілі і паілі гарбатай з варэннем за тое, што ён усё падпісваў і ва ўсім пагаджаўся з імі. На Моту рэдка хто са зняволеных трымаў крыўду — што з Моты возьмеш? Але аднойчы Моту павялі і больш ён не вярнуўся. Па «амерыканцы» разнеслася, што Моту расстралялі як галоўнага шпіёна. Відаць, надта многа ён на сябе падпісаў.

Такая ж гісторыя адбылася і з Лейкіным, былым загадчыкам рэстарана на Ленінскай. І гэты таксама жыццём паплаціўся за сваю даверлівасць...

Пасля трох месяцаў пякельных пакут Эдзіка пакінулі ў спакоі. Следства скончылася. Цэлы тыдзень яго нікуды не выклікалі. А потым перавялі ў турму на Урыцкага. Хрэн за рэдзьку не саладзейшы, як кажуць. На Урыцкага не білі і не дапытвалі, але былі там свае «ўцехі». Калі Эдзіка ўпіхнулі ў камеру, у нос адразу ж ударыў цяжкі смурод чалавечага поту і калу. Духата стаяла страшэнная. У камеры зняволеных — як селядцоў у бочцы, сядзелі і ляжалі адзін на адным, нават пад жалезнымі ложкамі. Дыхаць было неверагодна цяжка, у паветры густа завісала вільгаць, сцены камеры былі пакрыты слоем цягучай, брыдкай слізі. Свежае паветра падавалі праз трубу над дзвярыма па гадзіне на суткі: адкрывалася заслонка, і ў гэтыя хвіліны зняволеныя пачыналі прагна дыхаць, удыхваючы як мага больш свежага паветра, нібыта стараючыся надыхацца перад смерцю. Рэдкі тыдзень праходзіў, каб з камеры не выносілі трупы. Сярод зняволеных хадзілі чуткі, што трупы спальвалі ў турэмнай кацельні...

Мінула яшчэ тры месяцы. І гэтае выпрабаванне Эдзік вытрымаў. Хоць змарнеў, усох, але ўсё ж такі на нагах трымаўся. Раптам лютаўскай снежнай ноччу яго ў ліку іншых вывелі на турэмны двор, пагрузілі ў крытую машыну і пад узмоцненай аховай з сабакамі павезлі ў невядомым напрамку. Калі машыны спыніліся, высветлілася, што іх даставілі на таварную станцыю. На пуцях ужо чакаў «спеццягнік». Паравоз стаяў пад парай, і як толькі набілі зняволенымі тры вагоны, крануўся з месца. Ехалі доўга. Стаяў ужо май, калі, урэшце, зняволеных прывезлі ва Уладзівасток. Загналі ў лагер на ўскраіне горада. Лагер з усіх бакоў абнесены калючым дротам у тры рады, па вуглах стаялі вартавыя вежы. У цэнтры лагернай «рэзервацыі» стаялі два доўгія змрочныя баракі. Яны былі набіты зняволенымі, так што для «новенькіх» там месца не знайшлося. Размясціліся пад адкрытым небам. Разам з «палітычнымі» сядзелі «бытавікі» — рознага роду крымінальнікі. Сярод іх былі страшэнныя галаварэзы. Яны трымаліся адзін аднаго, і тут, у лагеры, збівалі сваю шайку, выбіралі «законніка» — галавара. Гэтыя нічога не баяліся, тэрарызавалі палітычных, адбіралі ў іх апошнюю лыжку полішкі. Але і сярод іх былі такія, што дзяліліся з «палітычнымі» сваім кавалкам. «Бытавікоў» кожны дзень выводзілі з лагера на работу, там ім надаралася расстарацца хлеба, іншых прадуктаў. Шчыра кажучы, не было б сярод «бытавікоў» людзей «з душой», Эдзіку давялося б зусім дрэнна. Голад быў жудасны. На лагернай полівцы доўга не працягнеш. Для таго, каб выжыць, ішлі на ўсё. Калі хто-небудзь са зняволеных аддаваў богу душу, дык яго трымалі каля сябе. Так атрымлівалі двайную «пайку» — на сябе і на нябожчыка. Трымалі, пакуль можна было трымаць. Трупны пах чуўся па ўсім лагеры. Ад рознай нечыстоты ўспыхнула эпідэмія тыфусу, якая выкасіла сотні зняволеных. Лютаваў сапраўдны мор. Тых, каго не забіраў тыфус, жэрлі вошы. За тыфусам прыйшла цынга. Дакранешся да зубоў, а яны высыпаюцца. Дваццацігадовыя хлопцы шамкалі бяззубымі ратамі, нібыта старыя.

Тым, хто выжыў, жахі лагернага жыцця ва Уладзівастоку ніколі не забыць. Многім смерць шчаслівым збаўленнем здавалася. Там лік нябожчыкам не вялі, усё адно збіліся б.

У пакутах прайшлі чатыры месяцы. Потым зняволеных пагрузілі ў трумы і пераправілі морам у Магадан. І быў знясільваючы, жорсткі этап на капальні...

...Капальня насіла гордае імя — «Камсамольская». Прыйшлі на голае месца. Толькі навокал калючы дрот, між радамі якога хадзілі вартаўнікі. За кіламетр відneўся невялікі пасёлак, хаты з бярвенняў — там жыло начальства капальняў, усё вольныя людзі. Зняволеных прывялі сюды, каб на гэтым голым месцы іх рукамі выкапаць шахту і здабываць золата. Залатаносная жыла залягала на глыбіні двухсот метраў. Перш за ўсё трэба было абжывацца, і тэрмінова — калымская зіма ўжо абвяшчала аб сваім набліжэнні начнымі замаразкамі. Але як будаваць? Інструменту ніякага — ні ламоў, ні сякер, ні малаткоў. Гэта ўжо потым знайшлі іх, а пакуль даводзілася вырываць лістоўніцы проста з коранем — навальваліся ўсім гуртам і сцягвалі яе са скалы. Проста з коранем укладвалі дрэвы ў сценку, шчыліны забівалі мохам, а потым, калі прыйшлі маразы, гэту канструкцыю аблівалі вадою. Атрымлівалася лядовая палата — утульнасці, зразумела, ніякай, але жыць можна было. Сцены па начах так настывалі, што прытулішся выпадкова галавою — раніцой валасы не адарвеш. Была ў палаце і печка — жалезная бочка з-пад авіяцыйнага бензіну, якая стаяла ў самым цэнтры. Каля яе расчырванелых бакоў і пагрэцца можна было. Але шчасце такое выпадала не часта, з дрывамі цяжка было.

І ўсё ж з цягам часу жыццё на капальні мала-памалу наладжвалася. Увесь першы год капалі, будавалі, умацоўвалі сваямі шахту Шахцёрскую, справу заадно асвойвалі. Залатаносную руду адбівалі кірка-

мі, грузілі на здаравенныя тачкі і падымалі на-гара. Ужо потым, у 41 годзе, калі дакаціліся да Калымы весткі пра вайну з Германіяй, гэтыя тачкі назвалі «Смерць Гітлеру». На глыбіні была вечная мерзлата, тэмпература трымалася ля адзнакі —60°. Ад ледзянога подыху нетраў не ратавалі і спецыяльныя маскі: скура гнаілася пад імі і спаўзала акраўкамі. Маскамі мала хто карыстаўся, абыходзіліся без іх — скура на твары толькі чарнела, грубела, нібы мазоль, але не злазіла. Спачатку балюча, не дакрануцца, а потым нічога, звыкаешся. Пароду ўзрывалі аманітам або тратылам. Аманіту, праўда, ненадоўга хапала — яго амерыканцы пастаўлялі. А тратыл быў вельмі шкодны, пасля выбуху ад яго сінsocials дымок у шахце заставаўся, вочы еў, лёгкія забіваў, ды так, што цяжка адкашляцца. Працавалі па дванаццаць гадзін.

Жыццё наверсе ішло па сваіх законах. Як і ва Уладзівастоку, разам з «палітычнымі» на капальнях былі крымінальнікі. Яны рабіліся ўсё больш нахабнымі, працавалі цераз пень-калоду. Была і каста, што карысталася прывілеямі, — «злодзеі ў законе». Гэтыя працаваць увогуле адмаўляліся, жылі па сваім няпісаным законе — работа для іх нібы грэх. А калі хто падымаў голас або паўставаў супраць несправядлівасці, таго, вокам не міргнуўшы, маглі «прышыць». Шылам у сэрца. Эдзіку пашанцавала, ён увесь першы год, калі «бытавікі» асабліва буянілі, жыў разам з цеслярамі. У тых сякеры, да іх не надта сунешся. крымінальнікі абыходзілі іх палату.

«Злодзеі ў законе» неаднойчы ўцякалі з капальні. У Магадане небяспечна было, па дарозе схапіць маглі, дык накіроўвалі да Лены, да яе вёрст шэсцьсот-семсот. Да «колаў» — чыгункі — даходзілі адзінкі, рэшта гінула ў дарозе. Там, у дарозе, іх чакалі голад, мароз, хваробы, а то і куля якута. Якутам за кожнага забітага ўцекача грошы давалі, і немалыя. Якут — паляўнічы ад нараджэння, страляе трапна, ад яго не ўцячэш. Каб вырвацца на волю, крымінальнікі нічым не грэбавалі. Неаднойчы на капальнях адбываліся дзікія выпадкі — то тут, то там знаходзілі акрываўленыя рэшткі людзей. Чалавечае мяса крымінальнікі бралі з сабою ў дарогу. Альбо бралі з сабою ў дарогу таварыша, які нічога не падазраваў — «авечку», якога чакаў потым страшэнны лёс.

Але пакрысе «бытавікоў» удалося на капальнях «прыціснуць». Нават «законнікаў», як тыя ні круціліся, прымусілі працаваць. Праўда, да таго часу іх засталіся адзінкі, астатнія паўцякалі ці загінулі. Начальства на капальнях было строгае, за парадкам сачыла. Дысцыпліна была жорсткая. Але і людзей, дзеля справядлівасці трэба сказаць, проста так на «Камсамольскай» не марнавалі. Для начальніка капальняў на першым месцы заўсёды стаяў план здабычы, а які са зняволенага работнік, калі ў яго жывот да спіны прырос, і сам ён ледзь-ледзь ногі перастаўляе? Юшка з мукі, хлеба па дзвесце грамаў на суткі — на гэтай «пайцы» можна было цягнуць лямку ў шахце.

Гэта не тое, што на суседняй капальні «Чаўр'я». Дрэнная слава пра тыя мясціны ішла. Зняволеныя паміж сабою называлі яе «Далінаю смерці». Начальнік там лютаваў страшна — голадам марыў, па шаснаццаць гадзін запар у шахтах пад зямлёю людзей трымаў, расстрэльваў за любую правіннасць. На план яму пляваць было, ён «ворагаў народа» зжываў са свету, як мог. Асабліва жорстка ставіўся да «палітычных» — рэдка хто з іх жывым вяртаўся з «Чаўр'і». Расказвалі, што кожныя тры месяцы там амаль цалкам абнаўляўся састаў зняволеных: адну партыю прывязуць, а праз тры месяцы — новую, ёй на змену. Працаваць камусьці трэба было. Сопкі ўсе ў «Даліне смерці» былі ў безыменных магілах. Вось каму-каму, а зверу ў тых краях прывольна жылося, лісіц асабліва шмат было. Харчаваліся звяры чалавечымі трупамі — разграбалі магілы і расцягвалі рэшткі па сопках. Хавалі людзей без трунаў. Мерзлую, нібы камень, зямлю адбівалі кіркой так, што нябожчык мог толькі памясціцца, а зверху прысыпалі зямлёю і снегам. Вясною, калі спаўзаў снег, з талай зямлі «выпаўзалі» напаўгнілыя трупы. Тыя, што ўцалелі ад звяроў. Бывала, выйдзе Эдзік зімовай ноччу з палаты, а з боку «Чаўр'і» чуецца лісінае цяўканне і важданіна: здабычу дзеляць. Страшнае гэта было месца — «Даліна смерці»...

...Капальня «Камсамольская» значылася ў перадавых. Шахта, на якой Эдзік працаваў, напрыклад, стабільна давала запланаваныя кілаграмы золата. Працавалі, можна сказаць, сумленна. Вайну ўспрынялі як усенароднае гора, як свой уласны боль. З вайною многія крыўды папрыціхлі — працавалі, не шкадуючы сіл, на агульную перамогу, на гібель Гітлера. Здабыча золата адразу ж падскочыла. Сярод вольнанаёмных пачалася кампанія па здачы працоўных зберажэнняў у фонд перамогі. Адзін інжынер з былых зняволеных нават танк на асабістыя зберажэнні купіў. Яго за гэта на фронт адпусцілі. Народ, як толькі даведаўся пра гэта, паваліў на пункт прыёму ахвяраванняў — усім не цярпелася на фронт трапіць. Але сітуацыя змянілася. З Магадана на капальню прыляцеў генерал з тлумачэннямі. З гэтай нагоды сабралі народ, і генерал выступіў з прамоваю. Гаварыў коратка, талкова — вось паедзеце вы, маўляў, на фронт. Колькі фрыцаў зможаце забіць? Ну, дваццаць, сама больш. А тут на золата, што вы здабываеце, можна столькі тэхнікі зрабіць, што тысячы фрыцаў лягуць пад яе гусеніцамі. Так што працуйце на Радзіму, на перамогу на капальні. Тут ваша месца, тут вы больш патрэбны. Сказаў так і паляцеў назад у Магадан. І народ супакоіўся, больш на перадавую не рваўся. Тым больш, усё адно цяпер не адпусцілі б.

У 42-м годзе, недзе бліжэй да восені, на капальню прыбыла першая партыя былых ваенных з ліку тых, хто пабываў у нямецкім палоне. Ваентрыбуналы сталінскага ўказу прытрымліваліся строга. У брыгаду да Эдзіка накіравалі хлопца — маладзейшага за Эдзіка гады на тры. Звалі яго Мікалаем. Праштрафіўся Мікалай — у немцаў у палоне паўгода сядзеў. А да гэтага на знішчальніку лётаў. Пасля паскоранага гадавога навучання ў лётным вучылішчы недзе ў сібірскай глыбінцы яму далі адзін ромбік і кінулі на Харкаўскі напрамак. Там, у адным з першых баёў яго, зялёнага лейтэнанціка, збілі «месершміты». Мікалай паспеў выкінуцца з парашутам. Трапіў на варожую тэрыторыю. Параненага, непрытомнага, яго ўзялі ў палон. Паўгода ў лагеры ў фрыцаў. Потым уцёкі, прарваўся да сваіх за лінію фронту. Смерці ў вочы не раз зазіраў, ішоў, каб у строй зноў стаць і ненавіснага немца біць. А трапіў пад суд. І з фронту проста на Калыму. Мікалай цяжка перажываў сваю крыўду. Хадзіў доўга нелюдзімы, злы на ўсіх. Нікога да сябе не падпускаў. Потым крыху адышоў, з Эдзікам пасябраваў, уцягнуўся ў работу.

У сакавіку 43-га ў Эдзіка скончыўся тэрмін — усё, адрабіў пяць гадоў па прыгаворы. Але з капальні яго не адпускалі. Было такое ўказанне — усіх, хто сядзеў па «польскіх» справах, з месцаў пазбаўлення волі не адпускаць. Але, як бы там ні было, з таго часу ў Эдзіка ўжо новае жыццё пайшло — ён лічыўся вольнанаёмным. Працаваў начальнікам шахты, жыў у пасёлку, побач з іншым начальствам. Жыць стала куды лягчэй — хлеба давалі на дзень не дзвесце, а семсот грамаў, і грошы ў кішэні з'явіліся. Так што і купіць сёе-тое можна было за грошы: гарбату, спірт, адэкалон і нават ледзянцы. Такса на ўсе гэтыя «прадметы раскошы» ў зоне была адна — рубель грам. Хадзіла па руках і золата. Але тут яго нявыгадна збываць было, а на «мацярык» з золатам не пападзеш. Гэта толькі крымінальнікі ўмелі па тры разы хадзіць на «вялікую зямлю» — золата збывалі. І начальства, што на руку нячыстае было, таксама на гэтай справе нажывалася. Але не заўсёды кату масленіца. Быў на капальні оперупаўнаважаны НКУС пад дзіўным прозвішчам Канстанцінопала. Не любілі яго зняволеныя — жорстка да іх ставіўся, гнюснасці розныя рабіў. Але ж і сам папаўся. Задумаў золата з сабою на адпачынак павезці (адпачынак у іх быў раз на два гады па шэсць месяцаў). Засыпаў залатыя злiткі і пясок у мяхі гармоніка. Дык яго разам з гармонікам і «накрылі» ў аэрапорце ў Магадане. Дайграўся. Прыходзіць аднойчы на капальню новая партыя зняволеных, а сярод іх — Канстанцінопала ўласнай персонай! Усё яму былыя падначаленыя ўспомнілі.

...Эдзік рабіў на капальні да 51-га года. Цяпер яго ўсе з павагай называлі Эдуардам Карлавічам. Нават начальства. І са зняволенымі ён ладзіў. Можа, і яшчэ пару гадоў прабыў бы на Калыме, ды нечакана здарылася бяда — зламаўся пад'ёмнік, на якім Эдуард Карлавіч выбіраўся наверх. Упаў ён у шахту. Выжыць — выжыў, але атрымаў другую групу інваліднасці. Але не проста было паехаць з Калымы нават і ў 51-м. Яшчэ паўтара года давялося «змагацца», пакуль нарэшце свайго дамогся. У сакавіку 1953 года ён ступіў нарэшце на перон роднага мінскага вакзала. Ад перона за метраў трыста, рукою падаць, было тое месца, адкуль яго павезлі на Калыму. Трыста метраў і пятнаццаць гадоў жыцця...

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

35 гадоў мінула з той пары, але і сёння Калыма абдае Эдуарда Карлавіча ледзяным подыхам успамінаў. Аб страшэннай жорсткасці і несправядлівасці, аб дзіўнай сіле і стойкасці духу людзей, якіх ператварылі ў бяспраўных рабоў, аб тых многіх тысячах няшчасных, што прайшлі праз руднікі Калымы і засталіся ў яе праклятай зямлі. Гэту вечную мерзлату ўспамінаў аб Калыме час не можа растапіць. Памяць гадам непадуладная.

*ДА 45-ГОДДЗЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ У БАЛГАРЫІ*

# З класічнай і сучаснай балгарскай паэзіі

**Перакладчык вершаў, якія прапануюцца чытачам, Марына Абрагімовіч закончыла ў гэтым годзе філфак БДУ імя У. І. Леніна. Балгарскую мову вывучала ва універсітэце, стажыроўку па ёй двойчы праходзіла ў Балгарыі. Была ўдзельніцай рэспубліканскага семінара маладых літаратараў у Доме творчасці на Іслачы.**

### Пенча СЛАВЕЙКАЎ

●

Ліецца ў мой пакойчык
дзіўны пах
ад кветак, тут пакінутых табою.
І гэты водар, мілае дзіця,
душу заносіць да цябе
у мроях.

Цябе я бачу ў стане забыцця,
у думках — я. Падперла лоб
рукою...
Ліецца ў мой пакойчык
дзіўны пах
ад кветак, што пакінуты табою.

### Нікалай ЛІЛІЕЎ

●

Пад небам, да вар'яцтва сінім,
плыве святочны звон палёў,
да невядомых далячыняў
мая душа імкнецца зноў.

Час прыскі забыцця раскіне
над грывай хваляў залатых,
да невядомых далячыняў
душа мая ўзляціць тады.

Калі ж мой дух
нязбыўнай мрояй
сівую восень ахіне,
яна пад роўны шум прыбою,
бы песня, згасне ў вечным сне.

### Павел МАЦЕЎ

●

Ля ракі, дзе дзяцінства святога
назаўжды засталіся сляды,
пасля летняй спякотнай знямогі
жарабяткі прыйшлі да вады.

Ў тонкіх ножках запал дзіцячы
і гняздзечкамі капыты.
Каб нябёсы ў рацэ ўбачыць,
жарабяткі прыйшлі да вады.

Ззяе зорка з бяздоння
рачнога,
час надыдзе—у неба тады.
З гордай мараю аб перамогах
жарабяткі прыйшлі да вады.

Бласлаўляю выпадак шчодры
калі я зразумеў праз гады,
дзе вытокі маёй пяшчоты...
Жарабяткі прыйшлі да вады.

### Надзя КЕХЛІБАРАВА

## Чэрвень

Няхай
касца не мочыць дождж ніколі,
ноч надыход свой запаволіць—
спей, залаціся, сена, падсыхай!

Няхай
у садзе пад рухавым ценем
жанчына схіліцца
з натхненнем —
і свята кветак льецца
цераз край.

Няхай
каля дубровы ў час спякотны
кранае далікатна, цнотна
пяшчотны вецер будучы
ўраджай.

Няхай
шчаслівым будзе надвячорак
і завіруха з ясных зорак
злятае ў рукі —
толькі падстаўляй!

### Пётр АНДАСАРАЎ

●

Развітваюцца ціха дрэвы
з летам —
абдымкаў кветак і пладоў
не будзе
да будучай вясны,
да свята кветак.
Не скардзяцца,
што доўгім будзе студзень.

Замест цябе мілую адзіноту.
Не страшна мне,
што існуюць расстанні.
Зіма лютуе —
па прыкметах, потым,
я веру, лета шчодрае настане.

### Хрыста ЯСЕНАЎ

## Над вадою

Лунаюць птушкі белыя
над морам,
іх раніца імглістая ўзбудзіла;
лунаюць птушкі белыя
над морам,
апаленыя пурпурам іх крылы.

Лунаюць чайкі над вадою
соннай,
вітаюць ранак свежы
і вільготны;
лунаюць чайкі над вадою
соннай,
і грэе сонца іх шляхі пяшчотна.

### Іва ХАРЛАМПІЕВА

●

Для Часу,
што не хоча мне скарыцца,
для снегу,
што сабой перапаўняе
ручай адталы, і зямля сівая
рукой празрыстай
пачынае мыцца.

Для Будучага, што наканавана
сустрэць за самым
блізкім паваротам,
і для вачэй тых,
што з такой пяшчотай
мне абяцаюць
зорнае спатканне.

Для Шчасця,
што п'яніць і непакоіць
і кроў, як у паводку,
разлівае,
вось для чаго бязмежна
я жадаю
не паміраць ніколі,
быць жывою.

### Таццяна ГЕАРГІЕВА

## Рукою рашучы рух

Рашуча ўзмахне рука —
І ўсё па-іншаму стане.
Так назаўжды рака
зліваецца з акіянам.

Гук губляецца так,
што нешта калісьці значыў.
Гэтак пад родны дах
вяртаецца нехта. І плача.

Гэтак магутны леў
гіне, і здрадца нізкі.
Кулі рыхтуецца спеў
ворагу так. Ці — блізкім.

Нізасць так аплаціць,
доўг так выкупіць можна.
І сябра свайго згубіць,
што першым быў і апошнім.

З балгарскай пераклала Марына Абрагімовіч

